

№ 7(24)
Люты 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:






*Новая арганізацыя*

## Пчалаводы

З сівой даўніны нашы людзі любілі мёд, таму мелі справу з пчоламі – то ў суперніцтве з мядзведзямі, "падгледжвалі", абіралі іх здабытак, то самі разводзілі, акультурвалі іх і змушалі дзяліцца мёдам.

Цяпер з пчалаводствам нямала розных турбот – шматлікія атрутныя рэчывы, хваробы, скарачэнні пасеву грэчкі і г.д., што ўсё разам стварае клопаты, нават небяспеку для пчол.

Нядаўна на факультэце павышэння кваліфікацыі кадраў Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны адбыўся з'езд віцебскіх пчалаводаў, якія занепакоены гэтай справаю. У выніку яны (каля 70 чалавек) аб'ядналіся ў свой прафесійны саюз.

## "Пошукі і здабыткі"



Так называецца выстава, якая адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры і ілюструе знойдзеныя помнікі археалогіі.

З рэчамі даўніны нямала турбот: мала мэтанакіраваных пошукаў, знойдзенае належна не захоўваецца, нямала выпадкаў "чорнай археалогіі", калі ёй займаюцца выпадковыя, але прагныя да старажытных прадметаў і багацця, узброеныя найсучаснай тэхнікай людзі.

Амаль за дзесяцігоддзе (1994 – 2003) набытак Нацыянальнага музея гісторыі і культуры – амаль 11 тысяч экспанатаў, здабытых у выніку археалагічных раскопак. Ёсць і унікальныя, і вядомыя прадметы – старажытныя сякеры, розная кераміка і г.д. Знойдзеныя рэчы, якія яшчэ трэба разгадаць (косці на гарадзішчы жалезнага веку, што можа быць тагачасным пахаваннем). Ёсць, як цяпер кажуць, замежныя прадметы. Як і чаму яны сюды трапілі? Ад заваёўнікаў? Ад купцоў-гасцей? Мясцовыя прывезлі? Адным словам, ёсць што паглядзець і над чым паразважаць.

*Ініцыятыва*

## Паўстанне старога замка

***Чым больш я жыву на свеце, тым больш набліжаюся да думкі, што гісторыю кожнага пакалення, кожнага народу заўжды ствараюць пэўныя асобы. Узнікаюць і знікаюць краіны, прыходзяць ды сыходзяць цэрквы, супольнасці губляюць ды вяртаюць свае спаконвечныя найменні, і за кожнай падзеяй – намаганне волі нейкай асобы альбо шэрагу асобаў.***

Гэтак і ўлетку асоба Івана Антонавіча Пячынскага, асоба Генадзя Антонавіча Пячынскага і асоба Мікалая Тодаравіча Пронькі разам узяліся за аднаўленне рэнесанснага помніка архітэктуры XVI – XIX стагоддзяў – замка ў г.п. Любча, які да XIX стагоддзя называўся Любеч над Нёманам, ці па-лацінску Lubecz ad Cronon, што ў Навагрудскім раёне. Наша арганізацыя "Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў" правяла некалькі летнікаў агульнай працаглацсю больш за месяц. Працавалі таксама штовыхадныя да першых зімовых маразоў, ад ранку да вечара, і над аварыйнай вежай паўстаў прыгожы гатычны дах.

– Ці мог быць над рэнесанснай вежай гатычны дах? – спытаецеся вы. Безумоўна, так, бо з прыходам рэнесансу ў Вялікае княства Літоўскае (чытай – на Беларусь) даволі моцнымі былі старыя традыцыі, што яскрава пацвярджае знаходка на брамнай вежы гэтага ж замка мяшанай гатычна-рэнесанснай муроўкі.

Хутка ў вежах замка будзе змешчана экспазіцыя Любецкага музея, а ў сувязі з гэтым не пашкодзіла б высветліць некалькі пытанняў з гісторыі замка.

**Першае пытанне** – гэта распаўсюджаная памылка аб унікальным ветраніку, знойдзеным падчас рамонту брамнай вежы замка. Ветранік змяшчае на сабе лічбу «1581» (меркаваны год пабудовы замка) і выяву магнацкага герба Яна Кішкі, закладальніка замка. Аднак устойлівая традыцыя і нават аўтарытэтныя навукоўцы прыпісваюць гэты герб княжацкаму роду Радзівілаў. Давайце разбярэмся. Герб мае 4 малыя гербы: Дуброва (падкова з крыжамі), Трубы (тры ражкі), Дрыя (перавязь), Вадвіч (дзве рыбіны). Адзін з чатырох гербаў заўсёды з'яўляецца радавым. Радавы герб Кішкаў – Дуброва, радавы герб Радзівілаў – Трубы. Усё на сваё месца ставіць дата 1581, бо Радзівілы атрымалі Любеч над Нёманам ад Кішкаў толькі ў 1607 годзе, да таго ж выява герба на пячатцы Яна Кішкі цалкам супадае з гербам на ветраніку.

**Другое пытанне:** ці была ў замку сістэма бастыёнаў, распаўсюджаная на іншых фартэцыях гэтага ж часу? Таўшчыня мура паміж вежамі – усяго 1,3 метра, на ёй гарматы не паставіш, з галоўнай вежы на паўднёвы бок цэліў 4 гарматы, з другой вежы – 2, мушкеты няшмат чаго вырашалі – адлегласць паміж вежамі 87 метраў! Пры гэтым замак вытрымаў аблогу маскоўскага войска Івана IV Грознага і казацкага войска Івана Залатарэнкі.

Я лічу вельмі верагодным, што замак мог мець другі, вонкавы шэраг бастыёнаў вакол рва. На карысць гэтай гіпотэзы гавораць звесткі аб тым, што ў 1920-я гады побач з замкам пры закладцы парку з мэтай выраўнавання пад яго пляцоўкі і на засыпку рва зямля на процілеглым ад замка паўднёва-заходнім вале была зрытая, адначасова са слоем зямлі на самім замку, у выніку – узровень рва павысіўся на 2 метры. Калі бастыёны існавалі, то, магчыма, мелі аналогію з бастыёнамі Геранёнскага замка. На карысць гэтага гаворыць аднолькавае размяшчэнне муравана Кальвінскага збора ў Любечы (1589), як і мураванага касцёла ў Геранёнах (1529) – каля галоўнай брамы замка, што, на думку М. Ткачова, даследчыка абарончага дойлідства, мела стратэгічнае прызначэнне ў якасці дадатковага бастыёна і агнявой кропкі.

Трэба таксама сказаць, што Любецкі замак, як любы іншы, мае свой прывід. І вось аднойчы пад ноч мы сядзелі ў вежы за размовай і, калі гутарка зайшла аб гаспадарах замка, я прыгадаў адну непрыемную акалічнасць з біяграфіі Яна Кішкі. Не паспеў я рот закрыць, як з байніцы вырвала цэбрык з тканінай, што гэтую байніцу затыкаў, гулка ўпалі цагліны, якія прыціскалі цэбрык; пры гэтым ніякага скразняку не было. Потым, праз тыдзень, адзін наш хлопец начаваў у вежы дый на свае вочы бачыў прывід.

У заканчэнне хачу прывесці сваю шматдзённую працу.

*(Заканчэнне на стар. 2.)*





*Моваю лічбаў*

### Пра нас, насельнікаў Беларусі

Як паведамляе "АіФ" у № 1 за гэты год, на аснове экспертызы Фонда ААН у галіне народанасельніцтва падлічана і выказаны погляд, што насельніцтва Беларусі да 2300 года зменшыцца да 6,5 мільёна чалавек.

Раней паведамлялася, што, напрыклад, пасля Другой сусветнай вайны ў Беларусі і, скажам, Узбекістане было прыкладна пароўну людзей – па 7 мільёнаў. Але вось у гэтай азіяцкай краіне колькасць людзей ужо праз паўстагоддзе ўзрасце з 25 да 38 мільёнаў.

І яшчэ пра лічбы. Як паведаміла беларускае тэлебачанне, сёлета пенсіянерскі склад нашага грамадства папоўніцца на 81 тысячу чалавек.

### Выдавецтва

Сёлета выдавецтва "Вышэйшая школа" адсвяткуе свой 50-гадовы юбілей. Згодна з паведамленнем БелТА за гэты час яно выпусціла больш 7 тысяч назваў кніг накладам звыш 100 мільёнаў экземпляраў.



*Заслаўская кафля*

# Паўстанне старога замка

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## "Летапіс вольнага места Любеч над Нёмнам"

Бронзавы век – бызыменнае паселішча з радовішчам балотнае руды;

1-я пал. XIII ст. – уладанне князя Міндоўга;

каля 1250 г. –Міндоўг падараваў двор Любеч баярыну Андрэю Васільевічу Кіяну з Кіева;

пасля 1253 г. – заснаванне Літоўска-Рускага біскупства, Дамініканскага кляштара 1-м біскупам Літоўскім, прэлатам кракаўскім Вітам;

да 1428 г. – уладанне Вялікіх князёў літоўскіх Гедыміна, Кейстута, Вітаўта;

1428 г. – Вітаўт падараваў двор Любеч сваёй жонцы Ульяне Гальшанскай;

1465 г. – Вялікі князь Казімір падараваў двор Любеч Міхайлу Кезгайлу;

1476 г. – памёр Міхайла Кезгайла без нашчадкаў; Любеч пераходзіць да дзяржавы;

3 мая 1499 г. – Вялікі князь Аляксандр падараваў двор Любеч Ходзьку Рыгоравічу Храптовічу – падскарбію;

1517–1528 гг. – уладанне Марціна Меляшковіча, Глеба Есьмановіча; заснаванне мястэчка.

1528 г. – мястэчка Любеч набывае Альбрэхт Гаштольд;

1535 г. – няўдалая аблога войскам Івана Грознага;

1539 г. – памёр Альбрэхт Гаштольд, мястэчка пераходзіць да Станіслава Гаштольда;

18 снежня 1542 г. – памёр Станіслаў Гаштольд, на ім згас род, мястэчка Любеч адыходзіць да дзяржавы;

5 жніўня 1562 г. – дзяржаўцам Павел Іванавіч Сапега, утрыманне гарнізона ў 80 коннікаў;

з 1574 г. – уладанне Яна Станіславіча Кішкі;

1581 г. – будаўніцтва мураванага замка;

1582 г. – правядзенне Арыянскага сінода;

1589 г. – заснаванне Арыянскага збора, пры ім: плябань, школа, лякарня;

15 красавіка 1590 г. – наданне Вялікім князем Жыгімонтам III Магдэбургскага прывілею на прашэнне Яна Кішкі, наданне герба, правядзенне кірмашоў; мястэчка становіцца местам (горадам);

26 ліпеня 1592 г. – памёр Ян Кішка; Любеч пераходзіць брату Станіславу Станіслававічу Кішку;

8 лютага 1606 г. – уладанне Ганны Кішкі, дачкі Станіслава Кішкі;

25 лістапада 1607 г. – уладанне Крыштопа II Радзівіла праз шлюб з Ганнай Кішкай; пераасвячэнне Арыянскага збора ў Кальвінскі (XVII ст.);

1612 г. – заснаванне друкарні пры зборы;

1616 г. – спроба павелічэння насельніцтва горада шляхам перасялення гараджан з Менска і інш.;

1633 г. – знаходжанне ў Любецкім замку кунсткамеры;

1640 г. – памёр Крыштоп II Радзівіл; Любеч пераходзіць да сына Януша;

22 сакавіка 1644 г. – пацвярджэнне Вялікім князем Уладзіславам Магдэбургскага прывілею на прашэнне Януша Радзівіла; наданне другога герба;

8 сакавіка 1647 г. – выданне ўладальнікам Любечы Янушам Радзівілам "Статута места Любеч";

1647 г. – чарцёж горада Любеч Нарановіча-Нароньскага; інвентар горада;

1654 г. – закрыццё любецкай друкарні ў сувязі з вайной, г.зв. "Патопам";

жнівень 1655 г. – узяцце Любечы казакамі І. Залатарэнкі; замак не ўзяты;

31 снежня 1655 г. – памёр Януш Радзівіл; Любеч пераходзіць да жонкі Марыны Янушавай Радзівіл;

1659 г. – вываз Багуславам II Радзівілам кунсткамеры ў Польшчу;

1659 г. – узяцце замка войскам маскоўскага ваяводы Хаванскага; руйнаванне замка;

19 студзеня 1660 г. – памерла Марына Янушавая Радзівіл; Любеч пераходзіць да Багуслава I Радзівіла, брата Януша;

1660 – 1669 гг. – рамонт замка Багуславам I Радзівілам (нясконачаны);

1669 г. – памёр Багуслаў I Радзівіл; Любеч пераходзіць да Станіслава Казіміра Радзівіла, ардынатара Клецкага;

1690 г. – памёр Станіслаў Казімер Радзівіл; Любеч пераходзіць да Людвікі Караліны Радзівіл, дачкі Багуслава I;

з 1695 г. – уладанне князёў Палятвенаў Рэнскіх з Нойбургскага дому праз шлюб з Людвікай Каралінай;

1683 г. – у арэндзе ў Катарыны Глябовічавай Радзівіл;

1700 –1721 гг. – Паўночная вайна; Любеч спалены шведамі;

21 жніўня 1730 г. – пажар; палалі Езуіцкі двор, Кальвінскі збор і замак;

1744 г. – Геранім Фларыян Радзівіл набывае Любеч і ўключае ў Нясвіжскую ардынацыю Радзівілаў;

1760 г. – памёр Геранім Фларыян Радзівіл; Любеч пераходзіць да брата Міхала Казімера Радзівіла (Рыбанькі), IX ардынатара Нясвіжскага;

1762 г. – памёр Міхал Казімер Радзівіл; Любеч пераходзіць да Ка́раля Станіслава Радзівіла (Пане Каханку), X ардынатара Нясвіжскага;

1790 г. – памёр Ка́раль Станіслаў Радзівіл; Любеч пераходзіць да Даміні́ка Гераніма Радзівіла, XI ардынатара Нясвіжскага;

1795 г. – III падзел Рэчы Паспалітай; Любеч пераходзіць да Расійскай імперыі.

*Андрэй ШУЛАЕЎ, старшыня МГА "БАСА"*

# Ад народных прыкметаў

## 125 гадоў метэаназіранням у Слуцку

**Канцом 1878 года адзначаюцца першыя, пастаўленыя на навуковую глебу метэаралагічныя назіранні ў Слуцку. І хаця праводзіліся яны ў той час недастаткова рэгулярна, тым не менш можна сказаць з упэўненасцю, што слуцкія метэаролагі з поўным правам адсвяткавалі ў снежні сваё 125-годдзе.**

Праблемы найлепшага прыстасавання жыцця да прыродных умоў хвалююць чалавека здаўна. Узнікшыя ў далёкай мінуўшчыне веды аб прыкметах, што папярэджваюць зменам надвор'я, актыўна выкарыстоўваюцца і ў наш час. Сёння яны называюцца народнай метэаралогіяй.

У 1808 годзе пачалі праводзіць назіранні за надвор'ем настаўнікі Магілёўскай гімназіі. Гэты год і можна назваць пачаткам новага этапу развіцця гідраметэаралогіі ў Беларусі. Праз два гады кліматычныя назіранні пачаліся ў Віцебску, у 1813 годзе – у Гомелі, у 1818 – у Барысаве, у 1846 – у Мінску. Фіксаваліся замярзанне і ўскрыццё рэк, узровень вады ў іх і іншыя прыродныя з'явы. Занатаваныя ў летапісах Галоўнай геафізічнай абсерваторыі ў Пецярбургу, гэтыя назіранні не згубілі сваёй значнасці, і цяпер яшчэ ўключаюцца ў кліматычныя і іншага кшталту даведнікі.

Задакументаваныя сведчанні Галоўнай геафізічнай абсерваторыі (ГГА) дазваляюць знайсці і пачатак метэаназіранням у Слуцку. Распачаліся яны напрыканцы 1878 года і працягваліся да 1895 года. Аднавіліся ў 1913, зафіксаваны дадзеныя за 1914 год. Вяліся назіранні выкладчыкамі і навучэнцамі Слуцкай гімназіі. У сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны і эвакуацыяй гімназіі ў Расію назіранні прыпыняюцца. Потым метэазводкі са Слуцка ў Пецярбургу зафіксаваны 1917 годам, але ў сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі прыпыняюцца зноў.

Значнай падзеяй стала адкрыццё ў 1930 годзе ў Мінску геафізічнай абсерваторыі, пасля чаго ў рэспубліцы пачала ствараецца сетка гідраметэастанцый. Як сведчыць справаздача інспектара Гідраметінстытута Я. І. Нікіфаровіча (яна захоўваецца ў архіве Дзяржфонда рэспубліканскага гідраметэацэнтра), 20 лютага 1932 года была адкрыта метэастанцыя другога разраду і ў Слуцку. Яе дадзеныя прызначаліся для выкарыстання сельскай гаспадаркай, прамысловасцю, на транспарце. Але галоўным чынам інфармацыя прызначалася для вайскоўцаў, бо Слуцк да 1939 году знаходзіўся непадалёк ад польскай мяжы. У горадзе размяшчаліся часці Чырвонай Арміі, а непадалёк – вайсковыя аэрадромы. Адведзеная гарсаветам метэапляцоўка размяшчалася на заходнім ускрайку горада, метраў за 200 ад педтэхнікума (цяпер гэты будынак – адзін з карпусоў кансервавага завода). Арганізоўвалася яна зімою, таму многія прылады, што павінны захоўвацца ў памяшканні (узвядзенне якога адкладалася да лета), часова размясціліў кватэры прызначанага наглядальнікам В. І. Лойкі, які жыў непадалёк.

Працавала слуцкая метэастанцыя да 1941 года. Галоўным наглядальнікам тады быў ужо вядомы нам В. І. Лойка, начальнікам станцыі В. А. Агародаў, наглядальнікамі – К. Н. Свінціцкая, А. А. Сіневіч і М. К. Забродская. Апошнія яе зводкі пазначаны 26 чэрвеня, калі ў горад уваходзілі нямецкія войскі.



*Метэастанцыя, год 1953*

Пасля вызвалення горада савецкімі войскамі станцыю аднавілі. Зыходзячы з загада № 154 упраўлення гідраметэаслужбы Беларускай вайсковай акругі даведваемся, што Слуцкая метэастанцыя адкрылася 20 ліпеня 1944 года на паўночна-заходнім ускрайку па вуліцы Базарнай у доме № 18.

Адным з першых тагачасных начальнікаў станцыі была метэаролаг Кахельнікава. На змену ёй у 1949 годзе прыйшоў Аляксандр Лук'янавіч Аладка, які і сёння жыве ў Слуцку. На гэтай пасадзе Аляксандр Лук'янавіч заставаўся да 1989 года, таму з упэўненасцю можна называць яго патрыярхам слуцкай гідраметэаралогіі. Пачынаў ён працу як метэаназіральнік яшчэ да вайны, прыдбаўшы прафесію пасля сканчэння школы на курсах у Мінску. Веды гэтыя не перашкаджалі і падчас вайны, калі юнак быў партызанскім разведчыкам. Пасля вайны ў Слуцк прыбыў з Ліды, каб быць бліжэй да роднай Чырвонай Слабады. На яго вачах праходзіла гісторыя станаўлення і развіцця слуцкай станцыі, калі павялічвацца калектыў, набывалася новае абсталяванне.



*Аляксандр Аладка*

Пашырэнне жылой забудовы і з'яўленне новых прамысловых аб'ектаў у 1960-я гады пачалі адмоўна адбівацца на аб'ектыўнасці збіраемых дадзеных, таму ў верасні 1971 года станцыю зноў перанеслі далей на поўнач горада, у раён Пупарава. Там, на адным з самых высокіх месцаў Слуцка, у спецыяльна ўзведзеным будынку яна знаходзіцца і цяпер.

З мэтай больш дасканалых назіранняў у 1960 – 1980-я гады па Слуцкім раёне было адкрыта 11 калгасных метэапастоў. Аднак да пачатку новага стагоддзя яны спынілі існаванне з-за недахопу сродкаў.

Цяпер Слуцкая метэастанцыя абслугоўвае чатыры раёны: Слуцкі, Капыльскі, Салігорскі і Клецкі. Галоўная яе задача – забеспячэнне самых разнастайных служб народнай гаспадаркі надзейнай інфармацыяй. У ліку карыстальнікаў таксама грамадзянскія і ваенныя аэрадромы, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі і Расіі.

З 1989 года метэастанцыю ўзначальвае Уладзімір Іванавіч Пашко, які пачаў працаваць тут у 1977 годзе пасля заканчэння Маскоўскага гідраметэаралагічнага тэхнікума. Акрамя яго працуюць аграметэаролаг і чатыры метэаролагі. У адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі, станцыя камп'ютэрызавана. Тут вядуцца назіранні і за фазамі развіцця раслінных культур, рухам сока, цвіценнем дрэў, прылётам птушак. Фіксуецца таксама радыёлагічны фон. Восем разоў на суткі здымаюцца сінаптычныя дадзеныя і перадаюцца ў Мінск, у Рэспубліканскі гідраметцэнтр, які, дарэчы, з'яўляецца адным з самых буйных у свеце.

*Сяргей БАГДАШЫЧ, Ігар ЦІТКОЎСКІ, г.Слуцк*

**Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! У студзені нас стала болей. То будзьма разам і надалей. Каб разам пашыраць нашую сябрыну, нагадваем, што падпісацца на "КГ" можна з любога месяца. Давайце не губляцца ў вялікім свеце сучаснай мітусні!**

Падпісныя індэксы:

індывідуальны – 63320 (*кошт на 1 месяц – 3 300 рублёў*), ведамасны – 633202 (*3 409 рублёў*).

*"... І дзякуй скажа родны край"*

# Знак пашаны да Льва Сапегі

У 1604 годзе канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега заснаваў у Талачыне касцёл, які прызначаўся для ўсіх гараджан. У 1769 годзе на гэтым месцы быў узведзены манументальны будынак у стылі так званага віленскага барока. Няспынная і вельмі вострая барацьба рэлігій абумовіла затымператварэнне касцёла ў 1796 годзе ва уніяцкую, а ў 1804 годзе – у праваслаўную Свята-Пакроўскую царкву. Яна ўнесена ў спіс важнейшых гістарычных помнікаў архітэктуры Беларусі і ахоўваецца дзяржавай.

Сёлета ў кастрычніку з нагоды 400-годдзя з часу заснавання гэтага велічнага храма ў Талачыне адбудуцца вялікія святочныя мерапрыемствы. Да іх па розных напрамках ужо вядзецца актыўная падрыхтоўка. Знамянальна, што вядомы мясцовы мастак і скульптар Юрый Палякоў стварае да юбілею храма скульптурны партрэт Льва Сапегі.

– Лічу за гонар увасобіць у сваёй рабоце светлы вобраз гэтага выдатнага дзяржаўнага дзеяча мінулага, – гаворыць Юрый Палякоў. – Леў Сапега вельмі шмат зрабіў для роскві ту дзяржавы, для людзей. У Талачыне ў 1604 годзе ён, акрамя касцёла, адкрыў школу і бальніцу для бедных. Так што добрая памяць пра гэтага знакамітага чалавека нязгасная, у тым ліку і ў нас, талачынцаў. У знак вялікай пашаны да Льва Сапегі і ствараю я сваю скульптурную работу, якая будзе ўстаноўлена ў нашым райцэнтры.

*Алесь МАЗУР, г. Талачын*



*Каменны млын маёнтка Зембін (Барысаўскі раён) канца XIX ст. Да вайны скарыстоўваўся як лазня, цяпер тут тартак (лесапілка)*

*Фота Алеся ПАНЦЯЛЕЯ*

Памяць

# Мастацкая памяць Хоцімшчыны

**Хоцімскі раён на паўднёвым усходзе Магілёўскай вобласці – самае што ні ёсць памежжа з Бранскай і Смаленскай абласцямі Расіі. Хоцімск быў першым з беларускіх райцэнтраў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Багатая гісторыя краю адлюстравана ў гісторыка-дакументальнай хроніцы “Памяць”, якая нядаўна пабачыла свет.**

Па традыцыі такія выданні змяшчаюць спісы загінулых у час Вялікай Айчыннай вайны землякоў, падаюць многія архіўныя дакументы. Укладальнікі кнігі імкнуцца ствараць паўнавартасны гістарычны партрэт раёна, хоць часам хронікі нагадваюць пра паварxоўнае стаўленне збіральнікаў памяці да лёсаў землякоў, падаюць ужо вядомае з энцыклапедыі. Хоцімская “Памяць” у гэтым плане з'яўляецца выключэннем.

І асаблівая ўвага ўкладальнікаў – да лёсаў, звязаных з культурай, мастацтвам, літаратурай. “Памяць” расказвае пра аднаго з буйнейшых даследчыкаў моў і культур семіцкіх народаў расійскага ўсходазнаўцу Ісаака Віннікава (нарадзіўся ў 1897 годзе ў Хоцімску). Яго работамі і зараз карыстаюцца студэнты, навукоўцы. Хоцімск – і радзіма паэта Аляксея Зарыцкага. Укладальнікі не абмяжоўваюцца яго біяграфіяй. Друкуюць ёмістыя кавалак з успамінаў творцы. У Беларусі мала ведаюць ураджэнца Хоцімшчыны паэта Міхася Карпенку (жыве ў хоцімскай вёсачцы Чарняўка, куды вярнуўся пасля доўгіх вандровак ужо ў пенсійным узросце). Амаль сорак гадоў яго жыцця прайшло ў Сярэдняй Азіі. Працаваў журналістам. Заслужаны дзеяч культуры Туркменістана. У Ашгабаце і Нукусе выдаў больш дзесяці вершаваных зборнікаў. З тае ж Чарняўкі, дзе зараз жыве паэт Міхась Карпенка, – паэт і перакладчык Алег Мінкін, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і Літвы. Жыве зараз у Вільнюсе.

Хоцімскую сярэднюю школу закончыў кандыдат гістарычных навук, палкоўнік у адстаўцы Іван Падабед – заслужаны работнік культуры Украіны. Доўгі час Іван Міхайлавіч узначальваў кафедру культурна-асветніцкай работы ў Львоўскім вышэйшым ваеннапалітычным вучылішчы. Сотні вайскоўцаў, афіцэраў (а нехта ўжо стаў і генералам) вывеў на шырокія прасторы наш зямляк. Напісаў некалькі кніг. Мне даводзілася бачыць Івана Міхайлавіча ў працы, слухаць яго выступленні. Адразу хачу заўважыць, што палкоўнік Падабед – чалавек выключнай культуры, глыбокіх рознагаліновых ведаў.

У хоцімскай вёсцы Альшоў нарадзіўся Пятро Прыходзька. “Памяць” услед за біяграфіяй друкуе яго нарыс “Ля вытокаў Радзімы”, дзе літаратар расказвае пра ўзнікненне задумы паэмы “Дар князёўны” (у аснове сюжэта – легенда аб паходжанні назвы Хоцімска). У свой час падобная задума не давала спакою Аркадзю Куляшову. Але ён не паспеў здзейсніць гэты творчы клопат.

З Хоцімска – паэт, перакладчык і вучоны-філосаф Ленанід Яўменаў. Яго жыццяпіс дапаўняе і публікацыя шэрагу вершаў пра родную старонку.

Зараз у некаторых рэгіёнах Беларусі пачалося выкладанне градазнаўства, раёназнаўства. Прыкладам, выдадзены падручнік “Аршазнаўства” В. Жукоўскага. На Берасцейшчыне выкладаюць “Маларытазнаўства”. Хоцімская “Памяць” – усямерны, шырокапанарамны падмурак для выкладання краязнаўства ў школах Хоцімшчыны як асобным курсам, так і ў якасці асобных гадзін па літаратуры, геаграфіі, гісторыі. Таму вялікая ўвага – славутаму ўсебеларускаму паэту Аркадзю Куляшову, чыя маці працавала на Хоцімшчыне.

Ставіць хоцімская “Памяць” і адну краязнаўчую загадку. Міхась Башлакоў, спасылаючыся на ўспаміны дачкі А. Куляшова, Валянціны Аркадзьеўны “Лясному рэху праўду раскажу...”, зазначае: “У в. Альшоў знаходзіўся маёнтак С. В. Рахманінава. Бацька паэта Аркадзя Куляшова, Аляксандр Мікалаевіч, які жыў і настаўнічаў на Хоцімшчыне, чуў пра гэта ад былога слугі славутага кампазітара, што засведчыла ў сваёй кнізе “Лясному рэху праўду раскажу” дачка паэта В. А. Куляшова. Пасля рэвалюцыі маёнтак быў нацыяналізаваны, у гады калектывізацыі на яго землях был створаны калгас, у сядзібным доме размясцілася праўленне калгаса”. Нагадаем: Сяргей Рахманінаў (1873–1943) – вялікі рускі кампазітар, піяніст, дырыжор. Са снежня 1917 года жыў за мяжою, у асноўным у ЗША. У Другую сусветную вайну даваў канцэрты, грошы за якія пералічваў у фонд Чырвонай Арміі. Дык ці бываў сам Рахманінаў у родавым маёнтку? Ці захаваліся наконт гэтага дакументальныя сведчанні? Словам, тэма для сур'ёзных і нялёгкіх пошукаў.

Ёсць у хоцімскай “Памяці” і раздзел “З матэрыяльнай і духоўнай спадчыны”. Гісторыкадакументальная хроніка Хоцімскага раёна засведчыла: мінуўшчына і сучаснасць шматкрат цікавейшыя, калі падаюцца ў судакрананні з літаратурна-мастацкімі абсягамі. Мажліва, гэтую акалічнасць будуць мець на ўвазе і збіральнікі тых хронік, што яшчэ праектуюцца, чакаюць свайго выдання.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***з кнігі “Вечна жыве Беларусь!”***

***(Працяг. Пачатак у № 1–6.)***

На тэрыторыі Беларусі бываюць як мясцовыя землятрусы, так і такія, якія ідуць ад далёкіх эпіцэнтраў у Карпатах ці Скандынавіі. Іх інтэнсіўнасць можа даходзіць да 6 –7 балаў. Яны звычайна адбываюцца на глыбокіх разломах (расколах, трэшчынах) у зямной кары. Добра, што значныя па сіле землятрусы на Беларусі досыць рэдкія, але ўсё роўна неабходна сейсмічнае раянаванне ўсёй тэрыторыі краіны. Больш слабыя землятрусы ў некаторых месцах праяўляюцца значна часцей. Так, напрыклад, у раёне Салігорска зафіксавана больш 100 такіх землятрусаў у год, што ў значнай ступені звязана з горнымі работамі па выемцы парод з глыбінь нетраў, таму адбываецца і парушэнні напружанага стану зямной кары. У час нават і слабых (але частых) землятрусаў узнікаюць інфрагукавыя і ультрагукавыя хвалі, якія адмоўна ўплываюць на здароўе людзей. Гэтыя феномены яшчэ вельмі слаба вывучаны.

Яшчэ менш вывучаны ўплыў гравітацыйнага поля Зямлі і яго варыяцый на чалавека, хаця падставы для гэтага значныя.

Многія геафізічныя і геахімічныя анамальныя з'явы (у тым ліку і пералічаныя раней) часта звязаны з глыбіннымі разломамі зямной кары, таму такія разломы патрабуюць асаблівай увагі ў іх вывучэнні з боку экалагічнай геалогіі як магчымыя геапатагенныя зоны. Экалагічная геалогія – гэта такі раздзел геалогіі, які ў першую чаргу вывучае негатыўныя ўздзеянні розных фактараў – геафізічных, геатэктанічных, геахімічных, гідрагеалагічных і іншых – на біялагічныя аб'екты (перш-наперш на чалавека) і розныя збудаванні. Гэта – адносна новы напрамак даследаванняў, таму яшчэ слаба распрацаваны. Галоўнае ў іх – экагеалагічнае картаграфаванне, якое дазволіць планаваць экалагічна бяспечныя ўмовы існавання і дзейнасці чалавека.

## ШТО ЯШЧЭ ТРЭБА РАБІЦЬ?

Развіццё цывілізацыі заўсёды апіралася на спажыванне карысных выкапняў. Без мінеральнай сыравіны немагчыма гаспадарчая дзейнасць чалавека, само існаванне чалавецтва. Мінеральна-сыравінная база – аснова навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Якія агульныя праблемы паўстаюць перад чалавецтвам у сувязі з выкарыстаннем мінеральнай сыравіны? Рэзка павялічваецца ўзровень спажывання мінеральнай сыравіны (у два разы прыблізна кожныя 10 гадоў), што вядзе да хуткага вычэрпвання радовішчаў карысных выкапняў да мінеральна-сыравіннай катастрофы. Адсюль вынікае неабходнасць эканамічнага і рацыянальнага спажывання прыродных рэсурсаў. Цяпер большасць радовішчаў карысных выкапняў, якія залягаюць блізка ад паверхні Зямлі, знойдзены, і таму прыходзіцца шукаць больш глыбокія, а гэта вядзе да павелічэння выдаткаў на іх пошукі і эксплуатацыю. Каб хутчэй і танней знайсці такія радовішчы, патрэбен дасканалы навуковы прагноз. Пры здабычы мінеральнай сыравіны ўзнікаюць праблемы павелічэння яе выбрання з радовішчаў (яно невялікае: нафты – 30 – 40 %, калійных солей – 40 – 50 %, вугалю – 60 – 80 % і г. д.) і змяншэнне страт пры перапрацоўцы і абагачэнні руд. Пры гэтым трэба скарачаць колькасць адходаў, для чаго неабходна распрацаваць малаадходныя, а яшчэ лепш безадходныя тэхналогіі. Радовішчы звычайна змяшчаюць некалькі карысных мінералаў, а вельмі часта здабываецца толькі адзін з іх. Таму ўзнікае праблема комплекснага выкарыстання мінеральнай сыравіны.

З некалькіх тысяч мінералаў і соцень горных парод, што вядомыя ў зямной кары, цяпер толькі нязначная частка з іх лічыцца ў якасці карысных выкапняў. З развіццём новых тэхналогій усё большая колькасць мінералаў і горных парод будуць пераходзіць у разрад карысных выкапняў. Неабходна арганізаваць дэталёвае вывучэнне найбольш распаўсюджаных відаў мінералаў і горных парод і іх выкарыстання, якія карысны кампанент і якім шляхам можна з іх атрымаць. Для паспяховага вырашэння гэтай праблемы неабходны сумесныя комплексныя даследаванні геолагаў, хімікаў, фізікаў, тэхнолагаў. Гэта – адзін са шляхоў пазбаўлення чалавецтва ад мінеральна-сыравіннага голаду.

Важны аспект праблемы мінеральнай сыравіны – міжнародны, які звязаны з нераўнамерным распаўсюджваннем і выкарыстаннем карысных выкапняў. Увесь час ідзе барацьба за мінеральныя рэсурсы. Краіны свету падзяляюцца на экспарцёраў і імпарцёраў той ці іншай сыравіны. Гандаль мінеральнай сыравінай складае чвэрць усяго міжнароднага таваразвароту. Важна адзначыць, што сучасная структура цэн на сыравіну, прадукты яе перапрацоўкі і гатовыя вырабы вельмі часта прыносяць найбольшыя выгады імпарцёрам. Выгадней прадаваць гатовы прадукт, чым сыравіну. Яскравы прыклад – Японія, прамысловасць якой працуе галоўным чынам на прывазной сыравіне. Бывае і наадварот, калі краіна някепска жыве за кошт экспарту нафты, як Кувейт. Але гэта крайнія выпадкі. Звычайна бываюць прамежныя сітуацыі. Чым больш багацце нетраў тэрыторыі краіны, чым лепш яно рацыянальна выкарыстоўваецца, тым больш магчымасцяў мець сапраўдную незалежнасць. У гісторыі мінулай і сучаснай мы маем шмат прыкладаў палітычнага націску праз мінеральную сыравіну. Добра вядома, як Беларусь і Украіна цяпер залежаць ад паліва Расіі.

Нарэшце, здабыча, перапрацоўка і выкарыстанне мінеральнай сыравіны патрабуе спачатку вялікіх фінансавых затрат (якія з часам, безумоўна, акупяцца), а таксама выклікае складаныя экалагічныя праблемы, якія неабходна адразу прадбачыць і ўлічваць.

*(Заканчэнне будзе.)*



*Калекцыянерам, і не толькі*

## Пашлём у Расію агрэст, абляпіху – у Францыю

Выдавецкі цэнтр “Марка” Рэспубліканскага дзяржаўнага аб’яднання “Белпошта” заўжды радуе добрымі выпускамі шэраговых карыстальнікаў маркамі-канвертамі-паштоўкамі ды калекцыянераў. Ёсць тут багата і для краязнаўцаў.

Так, серыя з чатырох марак (№ 523 – 526), прысвечаная футболу, закранае гісторыю гэтай папулярнай гульні ў нашай краіне. Серыю “100 гадоў FIFA” намалявалі Іван Лукін і Алег Гайко. Друкаваліся маркі лістамі з мастацкім аздабленнем поля. Наклад – па 150 тыс. У дзень выхаду на сталічным паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце “Першы дзень”.

Братам меншым, чатырохногім памочнікам чалавека – сабакам – прысвечана серыя марак № 520 – 522. На мініяцюрах ёсць і распаўсюджаны “працаўнік” – нямецкая аўчарка, і нямецкі дог, голдэн рэтрывер. Намаляваў іх Аляксандр Міцянін. Выйшлі накладам па 150 тыс. асобнікаў. Выпушчаныя таксама малыя аркушы накладам 30 тыс. асобнікаў. У дзень выхаду праводзілася спецгашэнне на канверце “Першы дзень”.

Нядаўна выйшаў сёмы стандартны выпуск (маркі адмыслова для аплаты паштовых адпраўленняў). Маркі № 532 – 546 прысвечаныя лясным і садовым ягадам нашай краіны. На зробленых з добрым густам мініяцюрах – цэлы россып сакавітай смакаты: чарніцы, журавіны, чырвоныя ды чорныя парэчкі, вішні, а таксама не так шырока распаўсюджаныя ў нас абляпіха, цёрн (калючая сліва)... Карацей, ёсць што паслаць разам з паштоўкаю ці канвертам сябрам ды родзічам у розныя краіны свету. Аўтар пятнаццаці мініяцюраў – Альфрэд Федзін. Памер 18 x 26 мм. Выйшлі накладамі па 250, 500, 750 тыс. і 1 млн асобнікаў (у залежнасці ад наміналу). На марках ёсць элементы абароны.

Надрукаваныя і ў аркушах па 15 марак накладам 15 тыс. асобнікаў.







### Да тэмы

Часта на канвертах ды паштоўках можна бачыць маркі з надрукаванымі ў якасці наміналу літарамі. Як разабрацца, якую літару клеіць на паштовае адпраўленне? Падкажам. Літара “A” адпавядае тарыфу для перасылкі простага ліста па Беларусі, літара “B” – паштоўкі па краіне, “C” – авіятарыфу для перасылкі простага ліста вагою да 20 г у Расію, Літву, Латвію, Узбекістан, Таджыкістан, Туркменістан, “H” – аналагічнага ліста наземным транспартам. Літара “P” адпавядае авіятарыфу для перасылкі простага ліста да 20 г у іншыя краіны свету (гэтак званае далёкае замежжа).

## З прызнаннем – у Латвію ці Узбекістан

Новае свята для закаханых – Дзень Святога Валянціна – усё шырэй уваходзіць у наш побыт. Сёлета ўжо і “Белпошта” не засталася ад яго ўбаку. 14 лютага ўведзена ў паштовы абарот марка, прысвечаная гэтаму дню. Намаляваў яе Роберт Ваўчок, наклад – 200 тыс. асобнікаў (як бачым, на ўсіх закаханых, верагодна, можа і не хапіць...).

У дзень выхаду на мінскім Галоўпаштамце праводзілася спецгашэнне на канверце “Першы дзень”.




***Выказваем падзяку супрацоўнікам выдавецкага цэнтра “Марка” за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыяла.***

***Інстытут літаратуры НАН Беларусі і выдавецтва “Мастацкая літаратура” завяршылі выданне Поўнага збору твораў народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Гэта навукова-каментаванае, фундаментальнае, самае поўнае выданне, яно ажыццёўлена ўпершыню і значна пашырае ўяўленне пра спадчыну класіка нашай літаратуры. Першы том дзевяцітомніка, які насамрэч з’яўляецца дзесяцітомным (9-ты том выдадзены ў дзвюх кнігах), выйшаў у 1995 годзе, апошні з’явіўся на паліцах кнігарняў сёлета.***

***Расказаць пра асаблівасці выдання, працы над ім мы папрасілі дырэктара Інстытута літаратуры НАН Беларусі, акадэміка, доктара філалагічных навук Уладзіміра ГНІЛАМЁДАВА.***

# Чытайце Купалу!

### Мы нічога не ўтойвалі

Гэты Збор твораў у дзевяці тамах найбольш поўны ў параўнанні з папярэднімі, і мы – навукоўцы, тэкстолагі, усе, хто рыхтаваў яго, — нічога не ўтойвалі. За асноўны тэкст твораў прыняты Збор твораў Янкі Купалы ў шасці тамах 1925 – 1932 гг. як найбольш аўтарытэтнае выданне – у яго падрыхтоўцы непасрэдны ўдзел прымаў сам Купала. У параўнанні з папярэднім, сямітомным, Зборам твораў (Мн., 1972 — 1976) новае выданне дапоўнена творамі, якія выяўлены ў архівах і перыядычным друку, але па пэўных меркаваннях не друкаваліся ў сямідзесятыя гады. Хіба, скажам, можна было тады ўявіць, што будуць выдадзены паэма “На Куццю”, п’еса “Тутэйшыя”, такія вершы, як “Перад будучыняй” і іншыя?

Гэта фундаментальнае выданне ў сэнсе паўнаты, забяспечанасці каментарыямі, па навуковым ўзроўні самога купалазнаўства, па сучасным падыходзе да літаратуры, па сацыяльных, этычных, маральных умовах нашага часу.

У аснову Поўнага збору твораў пакладзены жанрава-храналагічны прынцып, складальнікі адмовіліся ад традыцыйнага падзелу творчасці паэта на дарэвалюцыйны і савецкі перыяд.

Уся спадчына Я. Купалы, пра якую на час працы над выданнем мы ведалі, уключана ў яго. Хіба што, можа, у прыватных асобаў, нейкіх сховішчах яшчэ ёсць матэрыялы, звязаныя з Купалам, але пра іх мы не ведаем. Мы надрукавалі ўсё вядомае на сёння. Каб быць паслядоўнымі навукоўцамі, надрукавалі і тое, што паэт пісаў пра Сталіна, яго хваласпеў – і гэта таксама не ўтойвалі ад чытача. Думаем, што нас зразумеюць.

### Ён самы першы, самы мужны...

А чаго мы павінны прыхарошваць нашага песняра? Ён і так харошы! Ён самы першы, самы малады, самы чэсны, самы мужны, самы духоўна багаты. Купала не толькі наш паэт-пясняр, гэта і прарок – прарок беларусаў.

Яго нарадзіла ўзмежжа XIX – XX стагоддзяў, калі старая культура пераходзіла ў новую цывілізацыю. Адбываліся глыбокія тыктанічныя разломы, зрухі, духоўны землятрус. Карнявая Беларусь – якой яна была ў сярэднявеччы, у часы Вялікага княства Літоўскага разам са сваёй багатай гісторыяй, разнастайнай духоўнасцю, калі цудоўным чынам ужываліся розныя канфесіі, — патрабавала сабе месца ў новай цывілізацыі. Янка Купала стаў абаронцам глыбока гістарычных нацыянальных традыцый перад тварам новага часу – веку практычнага, больш карыслівага, рацыянальнага. Ён заявіў аб духоўных і гістарычных каштоўнасцях народа, якія, на яго думку і думку яго паплечнікаў, павінны былі жыць і працягваць узбагачацца. Гэты працэс, названы адраджэннем, адбываўся няпроста, складана, у беларускага адраджэння аказалася шмат праціўнікаў. Сляды змагання, канфліктаў мы знаходзім у творах як Я. Купалы, так і М. Гарэцкага, Я. Коласа, З. Бядулі і іншых.

Купала нам дарагі ва ўсіх абліччах – і як вялікі абаронца, і як прарок. Ён сказаў: “Я не паэт, о крый мяне Божа...” Разумейце гэта глыбей – ён сказаў: я больш, чым паэт, я ваш духаўнік, святар. Гэта яскрава праступае ў многіх творах, якія не друкаваліся. У той жа паэме “На Куццю”...

Купала наскрозь быў прасякнуты светапоглядам жыццёвага цыклу. Вось ён і павярнуў беларусаў у іх нацыянальную свядомасць, абудзіў надзею ў людзях. І гэта складае асноўны змест яго творчасці.

### Не ўсё было вядома...

Найбольш невядомай да выхаду Поўнага збору твораў заставалася публіцыстыка Я. Купалы. Восьмы том цалкам прысвечаны публіцыстыцы. Ранейшае выданне публістычных твораў паэта складала прыкладна пятую частку гэтай спадчыны. У Купалы было вострае пяро паэта-інтэлектуала. Думка яго заўсёды сягала высока. Ён як бы апраўдвае сваё такое становішча і часта піша ў вершах: буду маліцца...

У гэты Збор твораў уключаны шматлікія дакументы, нават ганарарныя ведамасці тых часопісаў, якія рэдагаваў Я. Купала і выплочваў ганарар аўтарам. У перыяд рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ён рэдагаваў “Вольны сцяг”, “Беларусь” і іншыя выданні. Можна прасачыць, як вялася на той час работа ў рэдакцыях.

Было супрацоўніцтва з архівамі асобных устаноў, у складанні навуковых каментарыяў мы карысталіся матэрыяламі, атрыманымі ад Камітэта дзяржбяспекі. Мы звярталіся і ў Маскву з просьбай прыслаць дакументы, якія маюць дачыненне да Купалы і яго пагібелі. Але нам з ФСБ адказалі, што такімі матэрыяламі “не располагают”. Пратаколаў сапраўдных допытаў у нас не было, але ў апошнім томе, у дадатках, уключаны фрагменты з некаторых пратаколаў, якія падобны на допыты. Нам тут шмат дапамаглі даследчыкі Віталь Скалабан, Аляксандра Гесь і дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Ала Галубовіч.

У другую кнігу 9-га тома ўвайшлі зусім невядомыя раней творы. Гэта, напрыклад, прыпеўкі. Пра іх ніхто не ведаў, а супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы іх знайшлі.

Я хачу падзякаваць усім, хто далучыўся да гэтай вялікай працы. Узначальваў калектыў член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі, вядомы тэкстолаг. Старэйшыя купалазнаўцы ў склад калектыву не ўвайшлі, але набыткі іхняй працы былі скарыстаны: гэта – Эсфір Гурэвіч, Роза Гульман (яны з’ехалі ў Амерыку), Валянціна Гапава (яе няма ў жывых). Вельмі плённа працавалі купалазнаўцы Эма Золава, Святлана Забродская, Тамара Строева, Алеся Шамякіна, Клаўдзія Казыра, Тэрэса Голуб, Ганна Якаўлева. Супрацоўнікам Інстытута ў значнай ступені дапамагалі супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і ў першую чаргу Жанна Дапкюнас – сваячка нашага слыннага песняра. Асобны дзякуй хачу сказаць рэдактару выдавецтва “Мастацкая літаратура” Наталлі Семашкевіч, яна адстойвала нашы інтарэсы, яе дапамога ў нашых вачах проста неацэнная... Дапамагала шмат людзей, усім ім сардэчная падзяка.

### Чытайце, чытайце Купалу!

Сёння ёсць “разумнікі”, якія робяць розныя закіды паэту: маўляў, не напісаў пра тое, пра гэта... І не разумеюць, што ў тагачасным становішчы ***ён вымольваў жыццё для свайго народа,*** сваіх сяброў і родных. Чытайце Купалу, і вы зразумееце яго духоўную веліч і трагізм часу. І, вядома, святых на свеце няма, а ёсць людзі рэальныя, з якімі трэба жыць, сябраваць, мець справы, паважаць іх. Урэшце, кожны адказвае за зробленае ім.

Поўны збор твораў Янкі Купалы выйшаў тыражом 5800 экземпляраў. На вялікі жаль, не ва ўсе бібліятэкі, у якіх Купала павінен быў бы прысутнічаць сваім Поўным зборам твораў, ён патрапіў. Але ж выданне разышлося і па рэспубліцы, і ў замежжы. Многія беларусы з былых савецкіх рэспублік звяртаюцца з просьбай дапамагчы набыць першыя тамы. Яны не ведалі, што пачаў выходзіць Поўны збор твораў, і купіць змаглі толькі яго наступныя тамы. Так што гэтае выданне, калі захаваліся плёнкі, трэба будзе паўтарыць.

...На сёння мы нашмат паразумнелі, адышлі ад вузкакласавых, партыйных поглядаў, узняліся на агульначалавечы ўзровень у сваім мысленні. Людзі змогуць прачытаць усяго Купалу, сапраўднага, без купюр. Я спадзяюся, што скажуць “дзякуй” нашым сціплым філолагам за гэту працу. Фундаментальнае выданне Збору твораў патрабуе прафесійнага падыходу, і мы рады, што яно завершана. Прачытаеш і сам твор, і што пра яго хто пісаў, якую думку выказваў, быў задаволены ці не задаволены паэтам і яго творчасцю. Гэта адразу напаўняе творчасць Купалы гістарычным зместам, робіць яе блізкай табе. Мы пастараліся ўсё гэта ўлічыць. Мы працавалі над выданнем з думкай пра суверэнную Беларусь, стараліся паказаць, які ў яе таленавіты сын, колькі ён зрабіў для народа.

*Падрыхтавала*
*Ала КАНАПЕЛЬКА*

*Археалогія і тапаніміка*

***Адна з невычэрпных крыніц нашай гісторыі – моўнае багацце, звязанае з назвамі пагоркаў і нізінаў, балотцаў і азёр, рэк і ручлак, лясоў і лугоў. Вяртанне старадаўніх і забытых назваў, узнаўленне гісторыі іх паходжання неабходнае нам не толькі, каб надаць месцу моўны гістарычны асяродак, але і каб ведалі мы, на якой старажытнай зямлі жывём і з якіх вытокаў выйшлі. Ад людскога занядбання найбольш церпіць гарадскі мікратапонім. На сёння няшмат знойдзецца прац, у якіх грунтоўна даследуюцца старажытныя назвы і дакладна вызначаецца іх месцазнаходжанне на тэрыторыі сярэдневечнага Менска. Мы паспрабуем ліквідаваць толькі невялікую частку тых белых плямаў, што пакрываюць карту сучаснага горада.***

# Гістарычны асяродак Свіслачы

Нізкі мост – адзін з нямногіх мастоў сярэдневечнага Менска, што ўзгадваецца дакументамі гарадскога магістрата. Яго назву можна растлумачыць, як "мост нізкі па канструкцыі, альбо ўзведзены на нізіне". Верагодней за ўсё, што на ўтварэнне назвы ўплывала яго размяшчэнне побач Нізкага рынка, аб якім красамоўна распавёў у XIX ст. беларускі краязнавец П.Шпілеўскі. У той час невялікая рачулка Няміга, што працякала побач з рынкам, неадройчы затапляла сваімі водамі яго тэрыторыю.

Першыя дакументальныя сведчанні аб нейкім гарадскім мосце прыпадаюць на 1514 г., калі Сігізмунд I зацвердзіў валоданне пляцам бліз яго за кіеўскімі мітрапалітамі і што дом кіеўскага мітрапаліта мясціўся на замку. З дазволу Сігізмунда I мітрапалітам Солтанам Ёсіфам у 1526 г. узводзіцца млын паблізу двара мітрапаліта, магчыма, побач з тым жа мостам. А пакольмі замак быў на правым беразе Свіслачы, то і двор мітрапаліта, і млын маглі знаходзіцца блізка да нейкага безыменнага моста.

У 1590 г. узгадваецца нізкі мост, "праз каторы на гару Траецкую ідуць".

У 1592 г. Сігізмунд III даў прывілей менскім мяшчанам Івану Данільевічу і Андрэю Іванавічу Масляным на пабудову за іх уласны "ўнёсак" мучнога альбо папернага млына на два колы як старастам старога Беразскага сабрнага брацтва. Млын знаходзіўся "на грэблі пад канец спуску Ялавага", "подле шпіталя, каторый у месцы Менскім на грэблі млыноў замкавых", "па канец мосту Нізкага ёсць ... на пажывенне ўбогіх, у шпіталю мяшкаючых". У 1642 г. Сігізмунд III даў прывілей гараджанам на арэнду млыноў замкавых на рэчцы Свіслач пры мосце Нізкім з платай за арэнду ў 100 злотых за год. Так упершыню ў пісьмовых крыніцах з'яўляецца назва моста – "Нізкі". У каралеўскім указе Уладзіслава IV узгадваецца аб арэндзе менчукамі млыноў на Свіслачы каля Нізкага моста. У 1633 г. радкі дакументаў зноў фіксуюць млын замкавы на рэчцы Свіслачы побач з Нізкім мостам.

Урыўкі тэкстаў сведчаць назвы месцаў і будынкі: Ялавы спуск, грэбля, млыны, шпіталь для убогіх. Названыя аб'екты месціцца побач. Яны, як арыенціры, дазваляюць рэканструяваць нам размяшчэнне Нізкага моста на карце горада.

Млын мяшчанаў Івана Данільевіча і Андрэя Іванавіча Масляніцы будаваўся на дакладна абазначаным месцы: на канцы Ялавага спуска і на канцы Нізкага моста. Выраз "на канцы Нізкага моста" можна тлумачыць як размяшчэнне млына не пасярэдзіне струменя рэчкі Свіслач, а далучанага да канструкцыі моста, на беразе, там, дзе мост апускаецца на бераг ракі. Выраз "на канцы Ялавага спуску" адсылае на бераг Свіслачы, а ўдакладняльная характарыстыка "спуск Ялавы" малюе схілісты рэльеф дарогі з гары да рэчкі Свіслач.

І ў наш час, у двух месцах пры беразе ёсць два крутыя схілы, размешчаныя паблізу адзін аднаго. На правым беразе схіл гары Ніжняга горада (Новага рынка), а на левым – Траецкай гары. Дзесьці тут, ля ўзножжа аднаго з гэтых узвышшаў, заканчваўся Ялавы спуск, побач быў і Нізкі мост.

Уадным з прывілеяў Сігізмунда III за 1592 г. гаворыцца аб праве маставога мыта. Гараджане пабудавалі за свой кошт масты на рэчках Пярэспе і Слепне "па дарозе-гасціньцы вялікім звыклым Віленскім". Гасціньцамі называлі дарогі, па якіх прыязджалі здалёк госці – гандляры, вандроўнікі і г.д. Гасцінец той быў "нова паложаны" з Русі да Вільна, на Новы рынак. "Нова паложаная" дарога – прывезеная ў парадак, падноўленая. Па гэтай вялікай дарозе ездзілі "звыкла", інакш кажучы, звычайна альбо здаўна. Сігізмунд III дазволіў браць "маставое" (падатак за праезд па мосце) на першым і другім мастах, а на трэцім, Старым, ці Нізкім, што на Свіслачы, "маставое" браць забараняў. З гэтых радкоў выяўляюцца дзве акалічнасці. Папершае, ён названы "старым", што дае падставу меркаваць аб яго існаванні здаўна. Ён звязваў старажытны шлях з Вільні і правы бераг Свіслачы, дзе размяшчаўся старадаўні цэнтр з замкам. Магчыма, ўзвядзенне моста прыпадае на мяжу ранняга і позняга сярэднявечча, калі Менск фарміраваўся як значны гандлёвы і адміністрацыйны цэнтр. Па-другое, мост станавіўся функцыянальна запатрабаваным для таго часу – ён вёў да ўзножжа Новага рынка, якое прасціралася на 400 м уздоўж Свіслачы. У якім месцы гэтай прасторы знаходзіўся Нізкі мост?

З вышэйсказанага вядома, што побач з ім, на левым беразе Свіслачы, размяшчаўся шпіталь для убогіх. У 1664 г. заможны гараджанін Рыгор Савіч завяшчаў Петрапаўлаўскаму манастыру дом з пабудовамі і пляц на Траецкім прадмесці шпіталю для убогіх. Пляцы для касцёлаў, цэркваў і манастыроў гараджане даравалі ў розных мясцінах горада. Мы ўжо ведаем, што шпіталь быў непадалёк ад Ялавага спуску. Ды і сама ягоная назва невыпадковая.

З даўніх часоў, на левым узбярэжжы Свіслачы, на Траецкім прадмесці, функцыянаваў вялікі рынак, дзе гандлявалі жывёлай. Сёння на гэтым месцы раскінуўся парк вакол тэатра оперы і балета. У познім сярэднявеччы гандляры прыводзілі на рынак жывёлу дзеля продажу жыхарам Менска. У дзень кірмашу жывёлін неабходна час ад часу гнаць на вадапой да рэчкі. Таму і празвалі схілісты спуск Ялавым. У якім месцы левабярэжжа ён знаходзіўся?

На гарадскім плане 1910 г. на Свіслачы абазначаны два масты паміж узвышшаў Траецкага прадмесця і Верхняга горада. Адзін мост злучае вуліцы Нямігу і Аляксандраўскую (сёння М. Багдановіча). Апошняя цягнецца да паўночнай часткі плошчы Траецкай гары. Ад другога моста цягнецца вуліца Шырокая да паўднёвай часткі плошчы Траецкай гары. Безумоўна, гэтыя масты ўзведзены на месцы старых. Але які з іх адносіцца да пазнесярэднявечнага Нізкага?

Мы ўжо ведаем, што побач знаходзіўся Ялавы спуск. Слова "спуск" сведчыць аб дарозе, па якой неабходна спускацца ўніз. Вуліца Шырокая на падыходах да Свіслачы пралягае 200-метровым адрэзкам па палогім рэльефе. На гэта ўказвае і сучасны стан мясцовасці, які не змяніўся. Яшчэ ў 1937 г. газета "Рабочы" сведчыць, як падчас разліву Свіслачы вада заліла вялікую частку вуліцы Шырокай. Гэта пацвярджае яе даволі нізкі рэльеф. Мясцовасць тут у познім сярэднявеччы магла быць забалочаная. Безумоўна, тут маглі пракласці з бярвення і дошак вуліцу па балоцістым, нізкім месцы, замацаўшы яе палямі. Словы "мост" і "маставая" аднаго паходжання. Нізкая мясціна магла даць і назву мосту – Нізкі. Але на такім месцы ён павінен быць даволі доўгім, што эканамічна невыгодна. І жывёліну на вадапой па балаціне ганяць таксама небяспечна.

На плане 1793 г. ад вуліцы Вялікай Барысаўскай, папярэдніцы будучых Аляксандраўскай і М. Багдановіча, зафіксаваны невялікі завулак, які адыходзіць у бок Свіслачы насупраць вуліцы Вялікай Бернардзінскай (сучасная Кірылы і Мяфодзія) на другім беразе. І па сённяшні дзень схіл на гэтым месцы даволі круты. Безумоўна, гэта мог быць Ялавы спуск. Робячы рэканструкцыю тагачасных падзей, можна канстатаваць, што гандляры на вадапой жывёлу гналі ад рынка Траецкай гары па Вялікай Барысаўскай. І каб статкі не перакрывалі Нізкі мост, іх накіроўвалі ў бок ад вуліцы да берага Свіслачы. Так гэты адрэзак і атрымаў назву.

Такім чынам, Нізкі мост злучаў берагі, да якіх прыпягалі вуліцы Няміга і Вялікая Барысаўская. Першапачаткова ён мог мець іншую назву, але з сярэдзіны XVI ст. атрымаў яе ад Нізкага рынка. Назва познесярэдневечнага Нізкага моста, які звязваў правабярэжную частку гарадской тэрыторыі і Нізкі рынак з левабярэжжам Свіслачы, дзе пачыналася Вялікая Барысаўская дарога, што ішла на ўсход, паступова выйшла з ужытку. Гэты рынак нярэдка затапліваўся Нямігай, што і стала адной з магчымых прычын яго пераносу з нізіннай часткі на бліжэйшы пагорак. Там паўстаў новы рынак. З цягам часу яго так і пачалі называць – Новы. Яшчэ доўга ў гарадскіх дакументах засведчваюцца падвойныя назвы гэтых месцаў: Стары, альбо Нізкі, рынак размешчаны пад гарой, у нізіннай частцы пры Нямізе, і Новы, альбо Высокі, размешчаны на ўзвышшы. Забудова вакол Высокага рынка значна ўзрастала, набывала гарадскі абрыс. У выніку з 1591 г. тут пачынаюцца мерапрыемствы па ўзвядзенні гарадской ратушы як сведчанне фарміравання гарадскога цэнтра.

Мост праз Свіслач, дзе быў у сярэднявеччы Нізкі мост, існаваў цягам многіх стагоддзяў. Ад яго пачыналася дарога, што праходзіла праз гарады Вялікага княства Літоўскага: Барысаў, Оршу і Смаленск.

У тыя ж стагоддзі, ніжэй па цячэнні Свіслачы, існаваў Ялавы спуск, назва якога пазней была страчана. Працягам гэтага спуску стаў мост, рэшткі палаў якога былі зафіксаваныя намі пры паглыбленні рэчышча Свіслачы зімой 2002 – 2003 гг.

Сёння на месцы познесярэдневечнага Драўлянага Нізкага моста стаіць бетонны, які звязвае вуліцы М. Багдановіча і Нямігу. Варта было б аднавіць яго старажытную назву "Нізкі мост" з адпаведна аформленай шыльдай, як і былы завулак "Ялавы спуск", цяпер забудаваны гмахамі 2-й гарадской клінічнай бальніцы. Пажадана там, дзе заканчваўся Ялавы спуск, устанавіць памятны знак з адпаведнай інфармацыйнай шыльдай, каб людзі хоць такім чынам даведаліся пра гісторыю гэтай часткі горада.

На жаль, Мінск страціў не толькі старажытныя назвы вуліц, але і назвы сваіх мастоў, якія спрадвеку знаходзіліся ў гістарычным асяродку вялікага паселішча. У многіх гарадах свету масты маюць назвы. А ці не варта ўзнавіць старыя назвы гарадскіх мастоў нашай сталіцы?

*Пятро РУСАЎ, археолаг*



*На здымку: Знаходкі з раскопак Свіслачы ў раёне Нізкага моста*

*Здымкі аўтара*

*Школьнае краязнаўства*

## Адраджэнне культурных традыцый у Заронаўскім краі

**Вёска Заронава мае даўнюю гісторыю, ёй ужо 450 гадоў**

Раней зямлёй тут валодалі Забэлы. І, як нам вядома, жылі цікава. Былі апекунамі адукацыі, таму ўжо ў 1867 годзе ў нашай вёсцы існавала народнае вучылішча, пазней адкрылася школа двух ступеняў.

Да вайны, як сведчаць дакументы, быў дзіцячы дом. Забэлы развівалі не толькі адукацыю, але і культуру.

Яшчэ і сёння старажылы ўспамінаюць, што 26 чэрвеня, у дзень Святога Ануфрыя (Нупрэя), з'язджалася ўсё панства з навакольных маёнткаў: Старасельскія, Жарабчскія, Вайханскія – да нас на фэст.

Мясціны ў нас сапраўды прыгожыя: старажытнае возера з астравамі і паўвостравам, шмат раслінnасці.

Усё вышэй сказанае заахвочвае заронаўцаў да адраджэння культурных традыцый. Дзень вёскі мы будзем адзначаць цяпер 26 чэрвеня, як і было раней.

Культурныя традыцыі нашых продкаў жывуць сёння ў іншых формах.

Мы вярнулі да жыцця ўсе чатыры гадавыя рытуальныя святы: восеньскае – Пакроў, зімовае – Каляды, вясновае – Гуканне вясны, летняе – Купалле.

Радуе, што адраджэннем культурных традыцый актыўна ў Заронаве займаецца разам з намі мясцовы Дом культуры.

Звычнымі ўжо сталі не адна, а тры, нават пяць груп калядоўшчыкаў рознага ўзросту. Асабліва любяць школьнікаў, бо мы заўсёды паказваем цікавы спектакль. Кожны год ёсць нешта новае.

Доўгі час Купалля заронаўцы баяліся, бо чакалі ў гэтую ноч розных непрыемнасцяў.

Цяпер усё змянілася. Ужо ніхто не сядзіць у засадзе на сваіх падворках, чакаючы "нечаканых купальшчыкаў". Цяпер усе – і малыя, і старыя – ідуць у парк на вогнішча. І там адбываецца шмат цікавага.

Гуканне вясны суправаджаецца традыцыйнымі забавамі.

Дарэчы, наша школа праводзіць настаўніцкія вячоркі, дзе настаўнікі вучацца танцам і песням, гульням нашых бабуль.

Адраджаем мы беларускія гульні. Даспадобы нам прыйшліся гульні «Млынар», «Каваль».

У рамках праграмы «Я Заронаўшчынай роднай ганаруся» намі створаны летапісы ўсіх устаноў нашага мястэчка, сабраны легенды і паданні нашага краю, запісаны дыялекты, праведзена праца па антрапаніміцы і тапаніміцы на мясцовым матэрыяле.

Уся наша праца знаходзіцца ў школьным музеі.

*Станіслаў НІКІЦІН, вучань Заронаўскай СШ Віцебскага раёна (Паводле газеты "Мир в XXI век")*

*Добрая навіна*

## Сядзіба Тадэвуша Касцюшкі будзе адноўлена

Тадэвуш Касцюшка, змагаючыся за волю, шмат зрабіў не толькі для нашага народа, але і для народаў Польшчы, ЗША, Францыі.

Яшчэ ў 2002 годзе Брэсцкім аблвыканкамам было вырашана рэканструяваць Касцюшкаў сядзібны дом, а летась там былі праведзены раскопкі, быў адшуканы падмурак і нямала розных рэчаў хатняга побыту, якія, безумоўна, знойдуць сваё месца ў музеі.

Значную частку сродкаў на аднаўленне сядзібы выдзеліў Брэсцкі аблвыканкам, пэўную частку перадало пасольства ЗША ў Беларусі, што спрыяе пачаць работу над дакументацыяй, археалагічнымі даследаваннямі, умацаваннем падмурку, нарыхтоўкай каменю і драўніны, трысьнягу.

4 лютага г.г., у дзень нараджэння славутага героя некалькіх народаў, ва ўрочышчы Мерачоўшчына адбылося ўрачыстае ўшанаванне яго памяці з удзелам грамадскасці і замежных гасцей.

# Аляксандр Асмалоўскі ў час абароны маці-Радзімы

***Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Аляксандру Віктаравічу Асмалоўскаму споўнілася толькі 17 гадоў. Але ён не застаўся ў баку ад барацьбы супраць ворага, бо разумеў, што вырашаўся лёс Айчыны. Ён стаў актыўным сувязным-разведчыкам партызанскага атрада № 45 «За Радзіму», які пад камандаваннем Уладзіміра Іванавіча Маркава дзейнічаў на тэрыторыі Краснапольскага, Клімавіцкага і Касцюковіцкага раёнаў. Партызанскай базай атрада стала вёска Сасновіца Краснапольскага раёна.***



Настаўніца Валянціна Мікалаеўна Мядзведская з вёскі Жалезніца, сувязная партызанскага атрада, сустрэлася з юнаком Аляксандрам Асмалоўскім, які перад вайной толькі закончыў педагагічнае вучылішча і жыў у вёсцы Асмолавічы. Ён ужо тады ўваходзіў у падпольную камсамольска-маладзёжную групу і з радасцю прыняў прапанову Мядзведскай стаць партызанам. З восені 1942 года ён становіцца адным з актыўных сувязных-разведчыкаў партызанскага атрада «За Радзіму».

У зводках баявых дзеянняў атрада ёсць такія запісы: «Узарвалі чыгуначную трубу за 2 км на поўнач ад станцыі Асмолавічы» ці «Неаднаразова аперацыі «рэйкавай вайны» праводзіліся ў раёне чыгуначнай станцыі Асмолавічы» і г.д.

16 мая 1943 года была ўзарвана Краснапольская нямецкая электрастанцыя, якая працавала пры былым Краснапольскім ільнозаводзе. У яе падрыхтоўцы і ўстанаўленні сувязі з краснапопьскімі агентамі прымаў удзел праз В. Мядзведскую Аляксандр Асмалоўскі.

Камандзір партызанскага атрада У. І. Маркаў вельмі паважліва адносіўся да дакладных звестак сувязнога-разведчыка А. В. Асмалоўскага. Нездарма яны да гэтага часу застаюцца лепшымі сябрамі. Некалькі разоў партызаны атрада «За Радзіму» сустракаліся на краснапольскай зямлі, успамінаючы барацьбу народных мсціўцаў. З імі заўсёды быў і Аляксандр Асмалоўскі.

У верасні 1943 года, калі партызанскі атрад злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі, Аляксандр Асмалоўскі становіцца разведчыкам-сапёрам 463-га сапёрнага батальёна 110-й стралковай дывізіі. Ён удзельнічае ў ажыццяўленні аперацыі «Баграціён» па канчатковым выгнанні акупантаў з беларускай зямлі, вызваляў Мінск, Гродна, многія іншыя населеныя пункты Беларусі, стаў ганаровым грамадзянінам г . Слаўгарада.

Сяржант Аляксандр Віктаравіч Асмалоўскі стаў двойчы кавалерам ордэнаў салдацкай Славы III і II ступеняў, узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, ордэнам Айчыннай вайны I ступені, двума медалямі «За адвагу».

Дэмабілізаваўся ў канцы 1945 года. Нейкі час працаваў настаўнікам пачатковых класаў, а далей была вучоба на гістарычным факультэце Магілёўскага педінстытута і плённая праца на ніве народнай асветы. А. В. Асмалоўскі быў настаўнікам, дырэктарам сярэдняй школы, загадчыкам Дрыбінскага райана, а потым – загадчыкам Магілёўскага абласнога ўпраўлення народнай адукацыі. У 1966 годзе А. В. Асмалоўскаму прысвойваецца званне «Заслужаны настаўнік БССР».

За поспехі ў працоўнай дзейнасці ён узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, чатырма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Аляксандр Віктаравіч Асмалоўскі зараз знаходзіцца на заслужаным адпачынку і жыве ў г. Магілёве. З краснапальчанамі падтрымлівае пастаянныя сувязі. Ім напісаны многія нарысы пра лёсы сяброў-партызан з атрада № 45 «За Радзіму», а таксама ўспаміны для кнігі «Памяць сэрца».

***Л. ЛАБАНОЎСКІ,***
***настаўнік***
***Краснапольскай СШ № 2***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

# Слова пра БССР

*Гісторыка-літаратурнае эсэ*

***(Працяг. Пачатак у № 5 – 6.)***

Мяснікоў мусіць падпарадкавацца, весці перамовы з Белнацкамам, са Сталіным, а затым разам з іншымі быць на сустрэчы з Леніным. Наўрад ці ёсць стэнаграмы тых, канечне ж, напружаных размоў-перамоў, а калі былі, то наўрад ці мелі да іх доступ нашы гісторыкі, але ў рэшце рэшт вырашана: ***Беларусі быць!*** Нават сённяшнія нашы камуністы не прамінаюць дадаць да гонару сваёй партыі: каб не Кастрычніцкая рэвалюцыя, не Ленін (а раней і Сталін), не Камуністычная партыя, то ніякай Беларусі не было б і ў паміне! Так-то яно так, але колькі было высілкаў, нерваў, сілы волі і духу, а пазней колькі пральецца слёз і крыві за тое, што ўдалося вырваць з зубоў нашу Беларусь!!! А ўдалося найхутчэй таму, што бальшавікі не столькі прыслухаліся да Белнацкама, увогуле да «чаяний» усяго беларускага народа, колькі пагадзіліся з тым пунктам Жылуновіча, што Беларусі пагражае белапольская акупацыя, дык лепш няхай яна пад уладай Саветаў стане буферам паміж буржуазнай Польшчай і Савецкай Расіяй. Тым не менш Жылуновіч нарэшце акрыляецца і разам з аднадумцамі натхнёна складае спіс тых, хто на роўнасных пачатках з мяснікоўцамі можа ўвайсці ў Камуністычную партыю і ўрад Савецкай Беларусі, сам піша «Маніхвэст». (Калі Сталін прачытае яго, то заўважыць: «А белорусский язык вполне самостоятельный!») Слоў няма, ёсць чаго ўзбадзёрыцца дзядзьку Зміцеру: збываецца шматвекавая мара лепшых сыноў беларускага народа і ажыццявіць, увасобіць яе ў жыццё выпала шчасце яму! Недарэмна столькі і ўсюды карпеў, шукаў выйсця, мяняў паводзіны, але ў галоўным стаяў на сваім! Ёсць цяпер з чым вярнуцца дамоў, адкрыта зірнуць землякам у вочы!

Не ведаю, ці насцярожыла тады Жылуновіча тое, што з прапановамі Сталін яго і Мяснікова прымаў паасобку. Як і невядомы, скажам, змест гутарак Сталіна і Мяснікова. А пра што і як гаварыў Сталін з Жылуновічам і яго паплечнікамі, як падаграваў іхнюю радасць і адначасова ўсыпляў іхнюю пільнасць, можна калі не адкрыта, то «паміж радкоў» вычытаць у пазнейшых успамінах Жылуновіча і Язэпа Дылы. Дык вось, здаецца, Сталін вельмі спакойна выслухаў даклад, прапановы Жылуновіча, абмежаваўся нязначнымі пытаннямі пра прэтэндэнтаў на «міністэрскія» пасады і заўвагамі (да слова, зацікавіўся, чаму ў сваім урадзе яны не хочуць бачыць Мяснікова, Калмановіча, Кнорына і іншых «видных революционеров»), а тады пазнаёміў з умовамі цэнтра па ўтварэнні Кампартыі, урада Савецкай Беларусі (гэта паўзабыты ўжо, але апублікаваны дакумент): 1) урад Беларускай рэспублікі складаецца са старшыні і 15 членаў урада; 2) для бягучых спраў будзе прэзідыум з трох асоб: старшыні ўрада і двух членаў з яго; 3) у склад рэспублікі ўваходзяць губерні – Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская і Смаленская (апошняя спрэчна, як вырашаць мясцовыя таварышы); 4) абласны камітэт партыі Паўночна-Заходняй вобласці ператвараецца ў Цэнтральнае бюро КП(б) Беларусі; 5) старшыня ЦБ партыі павінен быць прадстаўніком ЦК партыі і ўрада; 6) правы ЦБ партыі і аддзелаў урада застаюцца такімі ж, як у былога Абласнога камітэта і Аблвыканкамзаха.

Канечне ж, не ўсё ў гэтых ***фактычна ультыматыўных умовах*** спадабалася Жылуновічу, ды ён, грэючы сэрцам ***беларускія савецкія дзяржаўныя*** дакументы, разам з сябрамі з радасцю і вялікім хваляваннем едзе з Масквы ў Смаленск.

Чуў, што ў свой час у вузкім коле літаратараў і гісторыкаў хадзілі чуткі аб тым, хто тады знаходзіўся ў Смаленску (а там былі Янка Купала, М. Гарэцкі і іншыя), што мяснікоўцы нібыта па памылцы вайсковага караула на вакзале прытрымлівалі Жылуновіча, каб ён своечасова не трапіў на партканферэнцыю, не парушыў сталінска-мяснікоўскі план. Трапіў. Да 170 больш дэлегатаў, сярод якіх не менш 150 – мяснікоўцы.

Што дзіўна: здавалася б, такі важны для бальшавікоў козыр, як утварэнне пад іх эгідай савецкай рэспублікі. Ну, як тут не быць стэнаграме з такога форума?! Можа, яна і была ці ёсць. Але зноў жа – усе весткі ў асноўным па газетных публікацыях, па ўспамінах, дзе сярод недагаворак ці хлуслівага смецця «зерне» трэба выгортваць у падтэксце.

З'езд адкрыў Мяснікоў і даволі ў жалобным тоне, разводзячы рукамі: маўляў, трэба падпарадкавацца волі ЦК РКП(б), каб мы сёння нашу Заходнюю вобласць абвясцілі Беларускай Савецкай Рэспублікай (з першых яго такіх слоў крыкамі запярэчылі камуністы з Віцебска, але па ўзмаху рукі Мяснікова супакоіліся, а пасля некаторыя і падпарадкаваліся «воле партии»). Пасля абвяшчэння «дадзеную» цэнтрам тэрыторыю падзялілі на 7 раёнаў і 53 падраёны. Пасля іншых працэдур Мяснікоў зачытаў свой спіс Цэнтральнага Бюро – вышэйшага партыйнага органа ў рэспубліцы.

Жылуновічу не магло не пацямнець у вачах, як і не магла не шухнуць кроў у скроні: здаецца, з 15 членаў туды ад беларускіх камсекцый трапляе толькі двое! Ён і Лагун. Гэта – такая, на думку Сталіна і Мяснікова, роўнасць?! Цяпер яму зусім іначай успрыняўся сталінскі званок у іхняй прысутнасці ў Смаленск Мяснікову: «...рекомендуй своих толковых людей... Об остальном поговорим здесь». А Мяснікоў ужо не толькі супакоіўся, але і павесялеў, ды зларадна: у складзе Прэзідыума ЦК КП(б)Б трое і ніводнага з асяроддзя Жылуновіча. Мяснікоў – старшыня, Калмановіч – намеснік, Кнорын – сакратар. Ён, Мяснікоў, станавіўся згодна «Умоў» прадстаўніком ЦК РКП(б).

Жылуновіч сабраў сілы, волю і запратэставаў: у яго спісе, узгодненым са Сталіным, больш прадстаўнікоў ад беларускіх камсекцый і склад Прэзідыума іншы! Мяснікоў, усміхаючыся пераможна, паказаў свой спіс, дзе менавіта ўсё так. Зразумела, большасць дэлегатаў падтрымала яго, Мяснікова, ды яшчэ авацыяй: іхняе ж бярэ!

З цяжкай душой мусіў ісці Жылуновіч на першае пасяджэнне ЦБ. Няма сумнення, там яго рэкамендуюць старшынёй урада, але якой будзе тая пасада? Аперэтачнай. Улада, сувязь з цэнтрам будзе ў мяснікоўцаў. Ды гэта былі кветачкі, ягадкі чакалі яго на ЦБ, куды ўсё ж пайсці ўгаварылі сябры. Дзеля яе, Беларусі.

Ведучы ЦБ, Мяснікоў аб'явіў, што ён з Масквой прыйшоў да згоды, што ва ўрадзе патрэбны 17 наркамаў. Старшыня – Жылуновіч. Рэкамендавалі. Яго віншавалі, паціскалі руку, але ў вачах мала пасвятлела, а ў вушах стаяў звон: непакоіўся, што будзе далей. А далей ва ўрад параілі 7 яго чалавек. Нібы і нямала – 10 і 7, не так ужо і далёка ад роўнасці. Але мяснікоўскія дзесяцера і яго сямёра зусім не на тых пасадах, якія ён узгадніў са Сталіным! Яго людзям другія і трэція ролі, першыя ў мяснікоўцаў – наркамы земляробства, дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, харчавання, ваенных спраў, поштаў і тэлеграфаў, фінансаў, шляхоў зносін, старшыня Саўнаргаса. У Прэзідыуме ўрада трое: ён, Мяснікоў і Калмановіч. Кіраўніком спраў урада – Кнорын. Друкаваны орган – нядаўняя смаленская газета «Известия», толькі цяпер яна будзе называцца крыху іначай і будзе на чатырох мовах.

О, Божа! Які падман! Ягонымі рукамі нібыта на законнай аснове ўручылі ўладу лютым ворагам Беларусі! Ён ускіпеў: вывесці з урада Мяснікова (наркама па ваенных справах), Калмановіча (наркама харчавання) і Пікеля (старшыню Саўнаргаса), якія сканцэнтруюць усю ўладу ў сваіх руках і не дадуць яму ніякага разгарнення! А заадно запатрабаваў: урад не залежыць ад ЦБ! Інакай ён адмовіцца аддаць для абнародавання «Маніхвэст» пра ўтварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі! Мяснікоўцы не згадзіліся; Жылуновіч пакінуў пасяджэнне ЦБ.

У Смаленску і Маскве ажно чырванелі ад гарачыні тэлеграфныя апараты: Мяснікоў – са скаргай на Жылуновіча Сталіну; Сталін – са сваімі парадамі яму; Жылуновіч – з крыўдай, папрокамі Сталіну; Сталін – з угаворамі, з пагрозамі Жылуновічу... Калі сталінскае «не деритесь, а то будет плохо» не спрацавала таксама, то Сталін меўся прыехаць і сам ва ўсім «разабрацца». Разабрацца ў тым, што падрыхтаваў з Мясніковым і што ішло па іхнім сцэнарыі. Але не прыехаў ні ў Смаленск, ні ў Мінск. Жылуновіч мусіў здацца, усё дзеля яе, Беларусі, аддаў пераможцам «Маніхвэст», скарыўшыся, што «Белорусское правительство получает директивы непосредственно от ЦК партии через Мясникова как представителя последнего...»

***(Заканчэнне будзе. )***





# Беларускі род Дубягаў у Гетманшчыне

***Шмат каму вядома імя славутага беларускага астранома Дзмітрыя Іванавіча Дубягі (1849 – 1918), які паходзіць са шляхты Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. Але мала хто ведае іншых яскравых прадстаўнікоў гэтага роду. Новаадшуканыя дакументы, найперш прывілей караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра ад 30 красавіка 1662 года, праліваюць святло на дзеі Дубягаў (Думбяг) у сярэдзіне XVII стагоддзя.***

Дык вось, размова галоўным чынам ідзе пра Багдана (пачатак XVII ст. – ліпень 1659) ды Яна (Івана) Дубягаў (20-я гады XVII ст. – пасля 1662 г.), шляхціцаў герба "Калюмна", якія паходзілі з Мсціслаўшчыны. Багдан, "дасведчаны муж і жаўнер", з маладых гадоў служыў у войску Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам розных военачальнікаў і здабыў заслужаную славу і аўтарытэт. Пад тымі ж штандарамі Рэчы ваявалі і ягоныя пляменнікі Ян ды Юрый. Ці то напярэдадні нацыянальна-вызваленчай вайны ўкраінскага народа супраць каланіяльнага гнёту Рэчы Паспалітай 1648 – 1658 гадоў, ці на яе пачатку Багдан Дубяга са сваім старэйшым сынам, а верагодна, і з усёй сям'ёй, пераехаў на Украіну, у Кіеўскае ваяводства. Тут ён, напэўна, займаўся адміністрацыйнымі справамі ў апараце адроджанай Украінскай дзяржавы. Адмоўна ўспрыняў Пераяслаўскую Раду 1654 года і адмовіўся служыць маскоўскаму цару. Верна служыў гетману Украіны ў 1657 – 1659 гадах Івану Выгоўскаму і загінуў падчас паўстання антыгетманаўскай апазіцыі на чале з пераяслаўскім палкоўнікам Цімошам Цацурам.

Старэйшы сын Багдана Дубягі Ян змоладу ваяваў, як і яго бацька, у войску Вялікага княства Літоўскага пад началам палкоўніка Зыгмунда Слушкі і ротмістра Стэфана Клімчыка, потым вызначыўся



ў бітве супраць шведскіх і брандэнбургскіх войскаў пад Варшавай (1656) на правым беразе Віслы, пры гэтым быў паранены шабляю ў плячо. У наступнай значнай бітве пад Філіповым ён таксама паказаў сваю мужнасць і быў зноўку паранены. На гэты раз з вогнепальнай зброі. Пасля падпісання Гадзяцкай мірнай дамовы паміж Украінскаю дзяржавай ("Вялікае княства Рускае") і Рэччу Паспалітай у верасні 1658 года распачалася расійска-ўкраінская вайна 1658 – 1659 гадоў. У гэты час на бок гетмана Івана Выгоўскага стаў ягоны стрыечны брат Юрый, які дасюль ваяваў пад польскімі штандарамі. Разам з Юрыем да Выгоўскага прыбыў Ян Дубяга. Ён браў удзел у славутай (Канатопскай) бітве 11(1).07.1659 года пад Канатопам, у выніку якой украінскае войска дашчэнту разграміла расійскае. Адразу пасля бітвы Ян Дубяга прыбыў у Чарнігаў, дзе знаходзіўся яго бацька. Але праз тыдзень выбухнула паўстанне Цацуры. Прыхільнікі Выгоўскага былі знянацку захоплены і амаль усе пабіты, у тым ліку і Багдан Дубяга. Сын мужна біўся да апошняга, быў паранены ці кантужаны. Праваслаўныя святары выцягнулі яго напаўмёртвага з-пад целаў забітых. Потым ён трапіў у палон да пераяслаўскага палкоўніка і наказнога гетмана Якіма Сомкі, роднага брата першай жонкі Багдана Хмяльніцкага – Ганны. Сомка перадаў Дубягу новаму гетману, свайму пляменніку Юрыю Хмяльніцкаму, і той верна яму служыў. Пасля заключэння мірнай дамовы пад Слабадзішчамі (1660) Гетманшчына апынулася ў складзе Рэчы Паспалітай, а праз пэўны час кароль Ян Казімір даў Дубягу за заслугі дабаўкі да родавага герба.

Пасля адстаўкі Ю.Хмяльніцкага ў 1663 годзе Дубяга верагодна служыў новым гетманам Паўлу Цяцеру і Пятру Дарашэнку, прынамсі апошні паслаў яго і чыгірынскага атамана Сямёна Білацэркаўца ў 1665 годзе на чале свайго пасольства да Крымскага ханства. У лістападзе 1668 года ён ад імя таго ж гетмана Украіны вёў перамовы з расійскімі дыпламатамі ў Гадзячы. Верагодна, на пачатку 1672 года перайшоў на бок гетмана Левабярэжнай Украіны Дзям'яна Мнагагрэшнага і нават стаў палкоўнікам Міргарадскага палка (1672). Нагадаем, што полк у тагачаснай Украінскай дзяржаве – гэта не толькі вайсковая, але і тэрытарыяльная адзінка. Напэўна, у гэтым палку ён служыў да канца XVII стагоддзя. У сінодык Свята-Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра ў Кіеве ўвогуле ўпісана вельмі шмат беларускіх шляхціцаў і мяшчан, сярод якіх і з роду Дубягаў: Арцём, Іван, Паўло, Эменій, Нестар, Гафія, Іван, Гафія. Тут ёсць і згаданы вышэй Іван, а ягоны бацька Багдан, магчыма, схаваны пад манаскім імем Эменія.

Сын або блізкі родзіч Івана Дубягі – Аляксандр служыў канцылярыстам у самога гетмана Украіны (1687 – 1709) Івана Мазепы. Падчас паўстання на чале з Мазепам ён трапіў у палон і быў высланы ў Архангельск, дзе яго сляды зніклі. Верагодна, яму даводзіўся ўнукам Юхім Іванавіч Дубяга, які згадваецца ў 1752 годзе сярод казацкай старшыны (значковых таварышаў) Гадзяцкага палка.

У крыніцах можна знайсці і іншыя важныя звесткі пра гэты род. Але і згаданыя факты досыць красамоўна сведчаць пра важную ролю беларускага рода Дубягаў у жыцці Украінскай дзяржавы XVII – XVIII стагоддзяў.

*а. Юрый МЫЦЫК,*
*прафесар кафедры гісторыі Нацыянальнага універсітэта "Кіева-Магілянская Акадэмія", доктар гістарычных навук.*
*З украінскай пераклаў Яўген ЛЕЦКА*

***Да гэтай публікацыі ёсць патрэба сказаць некалькі слоў. Найперш папрасіць прабачэння і ў аўтара, і ў чытачоў "Краязнаўчай газеты" за незнарокліваe спазненне публікацыі. Прычына таму маё гарачае сёлетняе лета: заслонены напачатку турботамі, ліст праляжаў без руху да першага снегу. Ды гэта, мяркую, не перашкодзіць далейшаму супрацоўніцтву аўтарытэтнага ўкраінскага аўтара з цікавым беларускім выданнем, якое я яму пераслаў з першых нумароў і якое ён, як бачым, упадабаў. Юрый Андрэевіч Мыцык па-свойму унікальная асоба. Чалавек незвычайнай жыццёвай энергіі і працаздольнасці, ён штогод выдае па некалькі кніг і да сотні публікацый у перыёдыцы. Найперш захоплены тэмай казацтва на Украіне. А яна дае шырокі выхад на Беларусь, бо і з нашых зямель сотні і тысячы вальналюбных людзей папаўнялі казацкія загоны. Доктар гісторыі Ю. Мыцык шмат і плённа працуе ў архівах. А яшчэ выконвае як протаіерэй свае святарскія абавязкі ў саборы Кіева-Магілянскай Акадэміі. Вось такі чалавек.***

***Яўген ЛЕЦКА***

# Беларускі лубок. Вяртанне

***Народная карцінка, дрэварыт, лубок – гэта ўсё назвы адной цікавай культурнай з'явы, якая мела адметнае месца ў грамадскім жыцці на Беларусі з сярэдзіны XVI стагоддзя да пачатку XX стагоддзя. Нараджэнню лубка паспрыяла развіццё кнігадрукавання, вынайдзенага І. Гутэнбергам. Стварэнне гравюры на дрэве (дрэварыт) з далейшым адбіткам яго на паперу стала моцным мастацкім прарывам у пашырэнні культурна-інфармацыйнай прасторы, якая грунтавалася на традыцыйнай глебе народнага светаўспрымання. Вытокі гэтага феномену можам пабачыць у выданнях беларусаў Францыска Скарыны, Пятра Мсціслаўца, Васіля Вашчанкі, Спірыдона Собаля, Васіля Кораня. Знойдзеныя імі эстэтычныя формы, тэматыка і стылістыка малюнка грунтоўна паўплывалі на далейшае іх развіццё ў творах невядомых народных мастакоў. Першыя спробы збірання і вывучэння гэтага народнага феномена былі пакладзены Іванам Луцкевічам у Беларускім музеі ў Вільні на пачатку XX стагоддзя.***

Чым вабіў да сябе лубок? Дзе захоўвалася яго таямніца чароўнай казкі для народа?

Лубок існаваў заўсёды ў двух прасторах мастацкага свету: паміж "рэальным светам" і "фальклорным светам". Гэта дазваляла мастаку вольна адлюстроўваць традыцыйныя сюжэты і ствараць захапляльныя сцэны з народнага жыцця на лубе (ліпавая дошка, якую гравіраваў мастак). Апошняе было самай спецыфічнай рысай ягонага эстэтычнага самавыяўлення. Найбольш адметнымі выяўленчымі рысамі лубка былі гратэск і наяўнасць на малюнку тэкста, якія аб'ядноўвалі ў адзіную кампазіцыю прыгожае відовішча, дзе кожны мог быць актыўным гледачом, каментатарам, суддзёю. Лубок дазваляў выказваць кожнаму тое, што ён адчуваў, тое, што бачыў у народным жыцці, тое, што імкнуўся знайсці ў ідэале.

Прадстаўленыя лубкі Юрася Малаша з'яўляюцца першай спробай Адраджэння, ці Вяртання гэтай невычэрпнай мастацкай з'явы на Беларусі. Яны створаны чалавекам, які не мае прафесійнай мастацкай адукацыі, але доўгі час вывучае гісторыю народнага мастацтва беларусаў.

Ю. Малаш закончыў гістфак БДУ, займаецца даследаваннем творчасці Язэпа Драздовіча, тэмай інсітнага (наіўнага) мастацтва. Працуе 15 гадоў старшым навуковым супрацоўнікам у гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе». Аўтар выставаў «Зямля і космас Язэпа Драздовіча», «Беларускія маляваныя дываны», абедзве выставы дэманстраваліся ў Маскве. Удзельнічаў у выставе «Наіўны партрэт». Аўтар дакументальнага фільма «Летуценні Драздовіча».

У 2002 годзе стварыў рукапісную кнігу «Покліч Рагнеды», у 2003 г. зрабіў другое мастацкае афармленне. За аснову на малюнках узятыя арнаменты з кнігі «Беларускі арнамент» Кацара і этнаграфічныя, археалагічныя знаходкі з розных крыніцаў, а таксама працы Сержпутоўскага, Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага. На ілюстрацыях – урыўкі з народных песень, вершаў Я. Купалы, А. Міцкевіча. Гэтая кніга створаная паводле канонаў мастака, так званая арт-кніга.

Лубок Ю. Малаша – цудоўны аповед пра занядбаныя крыніцы мінулага беларускага народа, ягоную спадчыну, якая так хутка знікае сёння.

***Юрась ДУБРОЎСКІ***

## Дзівосная вандроўка ў часе, фарбах і роздумах





Колькі часу пройдзе, пакуль пачнуць абуджацца глыбіні душы чалавечай? Няма на гэта адказу сёння. Таму спяшаюся данесці Вам старонкі маёй Лубачнай кнігі. Яна дапаможа ўваскрэсіць занядбанае, каб адрадзіць Вечнае.

Тварэнне свету – самы захапляльны і найбольш таямнічы цуд Госпада, перад якім чалавек адчувае сваю мізэрнасць. Пачуццё прыгажосці, жаданне адкрыцця невядомага, пошукі мастацкіх формаў на глебе нацыянальнай культуры, вера ў лепшых сыноў і дачок Беларусі накіроўвае мой творчы шлях. Я ўпэўнены, што рай існуе для тых, хто сцвярджае вечныя ідэалы праўды, кахання, мужнасці, хто ніколі не здрадзіць родным і сябрам.

***Казкі*** не хапае сёння ў жыцці. Казку мы забылі – як яе знайсці? Дзівосныя мары так рэдка гучаць, іх трэба з любоўю ў сэрца вяртаць. Дзіця засынае, а казка не спіць, прыгожа-таемныя справы вяршыць. Пяшчота ў дзіцячую душу ідзе, развага аб крыўдзе кранае цябе. І болей не стрэліш у вераб'я, бо на тым дрэве жыве вераб'ёва сям'я.

***Гісторыю*** трэба ведаць як мага лепш, бо яна дапаможа, калі цяжка, бо ўсё, што шукаем у гэтым жыцці, калісьці ўжо было, трэба толькі знайсці. А колькі багацця ў паданнях роднай даўніны, у песнях забытых, на курганах і гарадзішчах, зруйнаваных замках. О, як іх шмат на беларускай зямлі! Ты толькі душою Яе закрані.

Беларускі ***арнамент*** – таямніца жаночай душы. Неспазнаныя скарбы для нас захавалі набожнікі-ручнікі. Колькі песень за кроснамі праспявана, колькі малітоўных словаў, забабонаў над вышыўкай уночы ляцела да зорак. Капалі слёзы, і чырвоная ніць крыжападобна натхнялася жыць.

Заслаўе – горад старажытны, я чую дзіўнае імя. Рагнеда, лёс твой гістарычны кранае сэрца. І я жадаю быць тваёй часцінкай, тваёю кропляю дажджу. Ты, як дзявочая хусцінка, о, беларуская зямля...

***(Працяг на стар. 8.)***



*Ад дзядзькі Антося*




– Прызнаюся, пачуваеш сябе не зусім ёмка за свае студзеньскія парады. Не, не каюся за нейкія агрэхі, усё было ад вычытанага ў навуковай літаратуры і ад сваіх даўніх назіранняў ды запісаў, але сама прырода дыктавала сваё. У студзені – мароз, снег, ды такі, якога не было шмат дзесяцігоддзяў (апошні раз, здаецца, нападала яго нават менш ў 1996 годзе), а на пачатку лютага, самі бачыце, мароз адпаў, дыхнула цяплом з паўднёва-заходняга еўрапейскага боку, дык зарана снег на дахах, на зямлі пайшоў на ваду. А яна ў лютым – не зусім пажаданая рэч, найперш з-за таго, што пры начной ахалодзе ўтварае пад стрэхамі небяспечныя ледзяшы, а на дарогах – галалёд.

Вясковыя людзі, не зважаючы ні на якія прыродныя свавольствы, рабілі і робяць сваё; дачнікі, як ведаю з перамоў з калегамі, у студзені і да сярэдзіны лютага ўжо думалі-дбалі пра свае лецішчы, штосьці ўласна дачнае вабіла і вабіць іх туды. Як заўсёды, імкнуцца з пляцаком на электрычку, але сёлета да свайго доміка не спяшаюцца. Адкладаюць, чакаюць лепшай часіны. Дык чакаюць дачнікаў і мае парады ў студзени – агледзець свой садзік, падкарміць птушак, зазірнуць у пограб. Значыць, ёсць час наведаць сельскагаспадарчыя і насенныя крамы.

І не толькі. Турботныя энтузіясты пачынаюць ужо дбаць пра тое, што хочацца сабраць летам і ўвосень – скажам, пра перац. Праверылі, якое яго насенне ў падсоленай вадзе (з разліку 30 г солі на літр вады), – тое, што патанула, прыгоднае, а тое, што і праз 20 хвілін плавае на паверхні, малапатрэбнае. Аселае на дно варта падлячыць у растворы марганцоўкі (3 г на 0,3 л вады) хвілін 10, абмыць вадою, загарнуць у вільготную тканіну, пакласці ў ёмкасць (у тую ж пластмасавую каробачку з-пад тварагу), накрыць і паставіць каля батарэі. Пры цяпле насенне лягчэй "прачнецца" (сачыце, каб не было высыхання).

Зразумела, увосень вы нарыхтавалі на лецішчы зямлі (праўда, не ўсе цяпер прывезлі яе ў горад, а вось паехаць па яе зараз не зусім выпадае). У каго яна ёсць, то мала толькі адсыпаць яе ў вядро, яе, зямлю, трэба яшчэ, як і насенне, пралячыць. Не ўсе гаспадыні згодныя паставіць гэтае вядро на газавую пліту (з-за непрыемнага паху) і пагрэць хвілін 15 . Дык хоць абліце зямлю варам. Дадайце купленую ў крамах зямлю (яе звычайна называюць "грунт") "Дзвіна". У раскладзенай па ёмкасцях зямлі сейцесадзіце насенне, накрыйце ўсё, пастаўце ў цёплае месца, але сачыце, каб зямля не перасохла ці, наадварот, не папляснела. Некаторыя сеюць-садзяць у агульнай ёмкасці, а пасля перасаджваюць (пікіруюць), а некаторыя – па некалькі зярнят адразу ў асобныя пасудзінкі, пасля падкормліваюць, выдаляюць слабейшыя і пакідаюць мацнейшыя ўсходы. Звычайна мацуюць расліны падкормкай "перцы-памідоры" (там пазначаны нормы і колькасць падкормак).

У лютым варта пасеяць на расаду і насенне сельдэрэю – вельмі вітаміннай і лекавай расліны (спрыяе ныркам і ўвогуле ўсяму кішэчніку, стрымлівае падагру, алергію, лісце і яго сок лечаць раны, а таксама ён, сельдэрэй, павышае мужчынскую моц).

Калі хто мае цяпліцы, можна пачаць высаджваць памідоры (прынцып амаль той жа самы, што і для перцаў); хто рыхтуе расаду ў парнік ці ў адкрыты грунт, спяшацца не раю. Няхай пабольшае дзень, больш будзе сонца. У адрозненне ад агуркоў насенне памідораў лепш ужываць свежае, леташняе. Некаторыя асцерагаюцца (і дарэмна) загартоўваць насенне – класці яго ў снег альбо ў маразілку (памідоры – на трое сутак).

Як вядома, памідоры бываюць самых розных гатункаў – высокія і нізкія, раннія, сярэднія і познія, буйныя, сярэднія і дробныя, для вырошчвання пад плёнкай і без яе. У выбары гэтага неабходна праявіць свае ўласныя зацікаўленасць і дапытлівасць, тым больш што кожны год фірмы-крамы прапаноўваюць ўсё новае і новае – часам рызыкоўнае, а часамі прыстасаванае (раяніраванае) да нашых умоў.

Напрыканцы лютага не палянуйцеся насенне агуркоў насыпаць у марлевы мяшэчак і падвесіць яго каля печы ці батарэі. Прагрэтае такім чынам насенне можна высаджваць пад плёнку ў канцы красавіка – пачатку мая (траўня).

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Артыст** (франц. ад лац. мастацтва) – акцёр (актор), чалавек, які выбірае сваёй прафесіяй дзейнасць у галіне сцэнічнага мастацтва, цырка, кіно. У шырокім сэнсе – асоба, якая займаецца творчасцю, – мастак, музыкант і г.д. На Беларусі першымі артыстамі былі скамарохі, батлеечнікі-імправізатары. Таленавітыя артысты ігралі ў прыгонных тэатрах, у тэатры В. Дуніна-Марцінкевіча, першай беларускай трупе І. Буйніцкага. У пазнейшы час прафесія акцёра набыла шырокае грамадскае значэнне. Акцёраў рыхтуюць у спецыяльных навучальных установах. Ім прысвойваюцца ганаровыя званні.

**Арфаграфічны слоўнік** – лінгвістычны даведнік, які вызначае, згодна з арфаграфіяй, напісанне слоў і іх формаў. Адзін з першых такіх даведнікаў ва ўсходнім славянстве і яго пісьменстве – слоўнік 1881 года П. Рамашкевіча.

Першы беларускі арфаграфічны слоўнік савецкага часу пад рэдакцыяй М. П. Лобана і М. Р. Судніка быў створаны ў 1948 годзе на аснове "Беларускага правапісу" 1933 года, які прадугледжваў "барацьбу з нацыяналізмам" і "збліжэнне братніх моў" у іх зліцці, гэта значыць фактычна ў размыванні ўласнай беларускай мовы і пераводзе яе на кальку. Пазнейшыя выданні абапіраліся на зацверджаныя ў 1959 годзе "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", якія таксама прадугледжвалі "збліжэнне і зліццё" ў інтарэсах камунізму.

**Арфаграфія** (ад грэч. правільны і пішу) – правапіс, сістэма правіл, якія рэгламентуюць спосаб перадачы вуснай мовы сродкамі пісьма.

Беларуская арфаграфія фарміравалася здаўна, ярка выявілася ўжо ў помніках беларускай пісьменнасці з XIV стагоддзя. З XIX стагоддзя, калі жывая гутарковая беларуская гаворка працягвала класціся ў аснову беларускай літаратурнай мовы, пачалі ўзмацняцца найважнейшыя рысы беларускай арфаграфіі, у выніку чаго перавага аддавалася натуральнасці фанетычнага прынцыпу. Адны (той жа сусветна вядомы польскі паэт Адам Міцкевіч у тых жа сваіх "парыжскіх" лекцыях) горача ўхвалялі гэтую натуральнасць, а іншыя (паланізатары і русіфікатары) падкрэслівалі ў ёй "мужыцкае", непаўнацэннае, але менавіта дзякуючы ёй, самабытнай славянскай натуральнасці, беларуская мова не толькі выжыла сама па сабе, але і дала аснову для далейшага сцвярджэння беларускай нацыі, дзяржаўнасці.

Для станаўлення арфаграфічных нормаў беларускай мовы вельмі садзейнічала навуковая дзейнасць Я. Карскага (1861 – 1931), які глыбока вывучыў беларускі фальклор, дыялекталогію, гісторыю беларускай мовы, напісаў па іх больш за 700 навуковых прац, стварыў энцыклапедычную, фундаментальную працу "Беларусы" (1903 – 1922, 7 выпускаў), што з'явілася найвышэйшым еўрапейскім дасягненнем у вывучэнні беларусістыкі і ўсяму сусветнаму, цывілізаванаму, культурнаму люду прадэманстравала на прыкладзе глыбокую самастойнасць беларускай мовы, літаратуры і культуры. Гэтыя даследаванні Я. Карскі прадоўжыў у шматтомных выпусках "Мова беларускага племені" (1908 – 1912) і ў іншых даследаваннях (бывала, выказваў і асобныя думкі, што не падзяляюцца сучаснай мовазнаўчаю навукай).

У савецкі час арфаграфічная навука працягвала развіццё, дзеля чага прыклалі вялікія намаганні Я. Лёсік, Б. Тарашкевіч, Я. Колас і іншыя.

*(Працяг будзе.)*

# Беларускі лубок. Вяртанне

## Дзівосная вандроўка ў часе, фарбах і роздумах

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7.)*

Выпіце чашу ахвяравання да дна. Выпіце, каб абудзілася Ваша душа ды паяднаалася з сілай ідэй, якой авалодаў Усяслаў Чарадзей. Каб запалілася Ваша свечка да слоў Я. Купалы і К. Каганца. А крывічанскую (ці старажытную) веру знайдзі ты ў В. Ластоўскага і Ф. Скарыны. Гонар Айчыны на Белай Русі тры асілкі захоўваюць – Л. Геніюш, У. Караткевіч, М. Ермаловіч – да іх пасляшай. Каб будаваць у нябёсах і на зямлі краіну неверагодных дзівосаў, красы, ты ў Я. Драздовіча папрасі зачараваны абярог, ён вандраваць па сусвеце яму дапамог.

Успаміны, надзеі – як мядовы нектар нашу плоць насычаюць, а творчасць – душу, натхненне Усемагутнага Бога даюць нам духоўную асалоду. Я спадзяюся, што кніга гэтая дапамагла адшукаць у варунках жыцця маленькі праменьчык, што свеціць з падмуркаў быцця. Свеціць у твой патаемны пакой, які душою называем, болем сэрца, памяццю, верай, надзеяй, каханнем і беларускім ахвяраваннем. О, мой мілы праменьчык! Заставайся гарачым, вясёлым, прыгожым, як дзень гэты сонечны, цудоўны... Мне так лёгка і ўсё зразумела з табой у жыцці, быццам нехта вядзе мяне ўначы.



*Перапісчык Юрась са старажытнага горада Заслаўе кнігу гэтую стварыў у год 2003 ад месяца красавіка да 31 ліпеня з вялікаю руплівасцю і разважлівасцю для ўсіх людзей, якія жадаюць спазнання і шануюць культуру продкаў сваіх, на вагі свядомасці пакінуў.*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач».

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.

E-mail:

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Падпісана да друку: 19.02. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 321.